


Хадуны ў Гайнаўцы ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Між сяброў... ➔8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 38 (3254) Год LXIII Беласток, 23 верасня 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Вясковая спадчына

**У Сацах, што ў Нарваўскай гміне, 15 верасня адбылося мерапрыемства, прысвечанае спадчыне гэтай вёскі. Падзея была адной са шматлікіх ініцыятыў у рамках адзначаных у гэты час Еўрапейскіх дзён спадчыны.**

Выбраўся я туды на публічным транспарце, значыць, на аўтобусе. Такі аўтобус, якім было б мне выгадна дабрацца ў Жыўкова, ад якога каля трох кіламетраў хады ў Сацы, пазначаны быў у раскладах на гадзіну 9.51 з прыпынку каля старой беластоцкай электрастанцыі, што па вуліцы Браніцкага. Чакаў я, чакаў таго аўтобуса, а ён неяк не хацеў з'явіцца на прыпынак. Пазваніў я тады ў бюро фірмы „Ваяжор" высветліць справу. Інфарматар з другога боку тэлефоннай лініі паінфармаваў мяне, што таго аўтобуса ўжо ў новым раскладзе няма, а калі я згадаў, што нідзе таго новага раскладу няма, ён парэкамендаваў мне ўзяць яго ў вадзіцеля. Толькі калі той вадзіцель прыязджае цяпер на прыпынкі?.. Гэта свайго роду таксама элемент нашай ментальнай спадчыны, гэтая неахайнасць у адносінах да пасажыраў, асабліва да тых, якія не карыстаюцца сваімі машынамі, якія па ўсёй верагоднасці, не надта важныя, якіх патрэбамі можна вось так сабе не дурыць галавы...

Прыйшлося стаць крыху важнейшым і выбрацца на сваім транспарце, балазе, што такім магу яшчэ сяк-так карыстацца. І нават удалося так трапіць у Сацы, што не трэба было пятляцца па гэтай арыгінальнай тапаграфіі прамавугольнай вёсцы. Бо Сацы, гэта дзве паралельныя вуліцоўкі, што пралеглі на абодвух берагах рэчкі Рудні, якую раней называлі Міліцінай. Вуліцу за паўднёвым берагам рачулкі прынята было называць Макранамі, а з супрацьлеглага — Сухлянамі. Бо да часу, калі каля паўстагоддзя таму рачулку перакапалі, то з боку Макран было макрэй, ад крыніцы ў недалёкім урочышчы Жарло.

Заехаў я ў месца фэсту нават пунктуальна і чакаў нейкіх арганізаваных падзей. Але неяк усё адбывалася даволі аўтаномна. Да маіх вушэй дайшла спачатку вестка, што мае там з'явіцца маршалак Падляшскага ваяводства, а крыху пазней, што па вёсцы мае прайсціся нейкі мастацкі калектыў з песнямі.

З'явіліся яны аўтаномна, спярша маршалак, пасля і калектыў. Маршалак Ежы Ляшчынскі элегантна прывітаўся з усімі прысутнымі, а пасля ў суправаджэнні галоўнай гаспадыні мерапрыемства, Тамары Ляшчынскай, солтыскі Сацоў, наведаў гаспадарства, якое выконвае ролю вясковага музея. Маршалак пачаставаўся, уручыў гаспадыні кош з падарункамі, пахваліў вёску і, спасылаючыся на абавязкі, неўзабаве пакінуў мерапрыемства. Афіцыйныя госці меншага рангу з'явіліся значна пазней...

Неўзабаве пачалася і мастацкая частка. Але спярша пра яе месца. Сцэнай для выступоўцаў было месца перад варотамі стадолы. А ў стадоле той можна было пабачыць прылады для даўняга вясковага гаспадарання — так для палявых работ, як і для хатніх. На платах панадворка павешаны былі саматканыя радзюжкі, далей была мясцовая старая хата з даўнім інтэр'ерам. На панадворку былі таксама палаткі, у якіх свае прапановы прадстаўлялі таварыства ахovы птушак, гмінная ўправа ды Яраслаў Тапалянскі з Трасцянкі заахвочваў пазнаваць дабрату збіранага ім мёду...



Тамара Ляшчынская і Ежы Ляшчынскі

Мастацкая частка пачалася з выступаў нарваўскіх школьнікаў, дзе наймалодшыя з іх праспявалі некалькі песень. Пасля іх старэйшыя калегі паказалі спектакль пра Трэцямайскую канстытуцыю 1791 года. А пасля выдатнае шоў даў іх крышку старэйшы калега, Крыстыян Паскробка. Прадставіў ён вясёлую гавэнду пра суседства... Не быў гэта адно вывучаны маналог, але мастак весела і тактоўна адгукаўся на заўвагі публікі, выклікаючы агульнае захапленне.

Пасля на суд публікі выйшлі госці, калектыў „Гаманіна" з Беларусі. У праграме мерапрыемства яго не было, таму было цікава даведацца пра нечаканых гасцей больш. Пацікавіўся я ў кіраўнічкі ансамбля, Наталлі Сазановіч; вось што яна мне расказала:

— У нас зараз тут два калектывы: гэта ансамбль „Гаманіна" з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі і вось тры цудоўныя жанчынкі, гэта калектыў „Церабяначкі" з вёскі Церабень Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Мы з імі сябруем ужо некалькі гадоў і вось у гэтым годзе Дарафей Фіёнік зрабіў такую нам добрую нагоду — запрасіў нас у гэтыя выхадныя прыехаць у Бельск. У нас быў такі добры настрой, мы сустрэліся з нашымі любімымі бельскімі сябрамі. Да Сацоў прыехалі мы, паглядзелі, усе тут нас так радасна сустракалі, што вось здалося, што мы ўжо тут былі, хаця мы тут яшчэ не былі. Наш ансамбль „Гаманіна" многа раз ужо быў у Бельску — мы сябруем з 2011 года з Дарафеем Фіёнікам і вось колькі разоў у год мы прыязджаем у госці. Прыязджаюць студэнты і тыя, хто ўжо скончыў універсітэт. І вельмі любім прыязджаць, бо настолькі цудоўна сябе тут адчуваем — як дома. І наш ансамбль у гэтым годзе адзначаў сваё 27-годдзе, а зімой будзе 28 гадоў. Шмат паездзілі, але вось самыя любімыя паездкі гэта ў Бельск, гэта праўда. А жанчынкі самі сябе весяляць у Церабені, бо вёсачка маленькая, яна ўжо ўміраючая, хаты стаяць пустыя...

— Так як у нас...

— Мы ехалі, жанчынкі глядзелі ў акно і кажуць: Польшча жыве, вёскі жывуць тут. Праязджаеш і амаль што межаў няма: вёска за вёскай. І бачна, што людзі нешта робяць у сваіх хатах, аднаўляюць хаты — і прыемна гэта. А ў Церабені, на жаль, засталося ўжо там няшмат зусім жыхароў і яны збіраюцца, вось, па некалькі чалавек іх, і самі сябе вось так весяляць, успамінаюць і спяваюць тыя песні, што калісь з імі выраслі. Вось Арына Сямёнаўна, бабуля іх вывучыла, хадзіла яна з бабуляй сваёй, а бабуля ёй усё спявала і яна ўпітвала. Еўдакія Антонаўна такі завадатар, яна іх так арганізавала. Яна чула песні, але так спецыяльна не вучыла. А вось Яўгенія Мікалаеўна, у яе такое сапрана. І ад іх вучымся добрай традыцыі. Прыязджаем з такім задавальненнем. Збіраемся, збіраемся ў каторы раз прыехаць і не можам. Але ж мы тут ад Дарафея Фіёніка навучыліся куста вадзіць, калі нас запрашаў, і прыехалі ў Церабень і там куста вадзілі таксама. Адсюль ужо бярэм такую традыцыю, звычаі, што занава аднаўляем; і ўжо такім ланцужком пацягнулася традыцыя туды. І мы прыехалі і з задавальненнем будзем тут спяваць.

— А ў Фіёніка зараз мерапрыемства адбываецца, а вас там няма...

— Мы там будзем увечары, заўтра ў Раманаўку паедзем. Мы ўжо ў Раманаўцы аднойчы выступалі і нам прыемна. Мы былі на пятнаццацігоддзе „Жэмэрвы". Дарафею споўніўся ўжо такі залаты юбілей і нам прыемна, што такія святы ўсё-такі праводзім разам.

Усяго добрага добрым госцям, якія не толькі радавалі публіку песнямі і танцамі, але таксама запрашалі мясцовых гледачоў да супольнай забавы. Было вельмі сардэчна. Публікі сабралася акурат столькі, колькі было нарыхтавана месца. На мой погляд, мерапрыемства прайшло вельмі ўдала.

Крыху пытанняў паставіў я і галоўнай арганізатарцы свята, Тамары Ляшчынскай:

— У вас такое свята першы раз?

— Так, першы раз, у рамках Еўрапейскіх дзён спадчыны. Я падумала, што напішам мы да маршалка ваяводства, каб нешта такое сарганізаваць разам з Нарваўскім асяродкам культуры. Ну і мы напісалі маленькі праект і атрымалі ад маршалка дзве тысячы злотаў, за што купілі гэтыя палаткі. Я наварыла, напякла, памагла мне мая мама з сяброўкаю напячы яшчэ хлеба. Вельмі добра. І наведаў нас маршалак Падляшскага ваяводства — гэта нам вялікі гонар.

— А як гэта атрымалася, што мела быць інакш, мела быць прэзентацыя, мелі быць расказы пра мінулае, а тут прыехаў калектыў; як Вы той калектыў прыпрасілі сюды?

— Гэта была неспадзяванка; мы ў праграме напісалі, што будзе неспадзяванка — бо мы не ведалі: будзе ці не будзе.

— І з кім Вы дамаўляліся?

— З Агатай Смактуновіч, нашай дырэктар Нарваўскага асяродка культуры.

— А як Вы ацэньваеце: удалае мерапрыемства?

— Вельмі добра; людзі прыехалі з Трасцянкі, і з Сацоў. Мы плахты паказалі, якія ў нас ёсць. Няма тут такога чагось бліскучага, але ўсё як жыццё. Такое было жыццё: на лавачках людзі сядзелі, аглядалі, калісь спявалі і так далей, і так далей.

— Як доўга Вы рыхтаваліся да гэтага свята?

— Варыла тры дні, бо вэндзіла каўбаскі...

— А калі Вы задумалі такое мерапрыемства?

— Так два месяцы таму.

— І то за два месяцы такое зладзілі?

— Так.

— О, то я шчыра захапляюся Вашым дасягненнем. Мне ваша свята вельмі падабаецца, а, ад сябе, вельмі Вам за гэта ўдзячны.

— І я хачу гэта далей паўтарыць. Бо ёсць дзе, ёсць месца, можа яшчэ атрымаем крыху грошай, то зробім лавачкі, нейкі дашок ці сцэнку для калектываў; нашы дзеткі са школы так прыгожа выступілі. Гэта сапраўды радасць.

Прадбачвалася, што ў ходзе мерапрыемства будуць успаміны мясцовых старажылаў, але гэта не атрымалася. Прысеў я да адной пажылой жанчыны, якая прыйшла падпіраючыся мыліцамі. І даведаўся, што ў ейнай частцы вёскі жыве яшчэ чатыры такія ж жанчыны, каля дзевяноста, якім ужо вельмі цяжка. Жывуць яны адзінока. Мая субяседніца прабавала жыць у дзяцей, але ж найлепш у сябе...

Бо такое пражыванне ў цяперашніх гарадскіх умовах падобнае на рэкруцтва, дзе чалавек жыве ў не сваёй хаце, да таго ж пад чужым камандаваннем. А каму ж гэта па душы? Спадчына шматпакаленнай сям'і з разгонам прагрэсу застанецца толькі ва ўспамінах; пакуль будзе каму яе ўспамінаць...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**





# Дзяржынскі і карова

Не раз даводзілася пісаць пра савецка-камуністычныя помнікі, якімі запоўнена ўся постасавецкая Беларусь. Але тэма гэтая цэлы час мае свой працяг. Больш чвэрці стагоддзя прайшло з таго часу, як сканаў Савецкі Саюз, Беларусь намінальна стала суверэннай дзяржавай, а чужынскія, пераважна крывавыя, куміры і ідалы дагэтуль запаўняюць плячы і вуліцы нашых гарадоў. І каб толькі плошчы гарадоў. У Гродне, прыкладам, помнік-бюст „жалезнаму Феліксу" па вуліцы яго ж — Дзяржынскага, стаіць проста ля самага ўваходу ў школьную гімназію. За ўсе гады стаяння гэтага ідала аніводны настаўнік, ці кіраўнік гэтай школы, ні разу не падняў пытанне пра дэмантаж і хоць бы яго перанос. Бо лагічна было б паставіць гэты помнік ля будынка КГБ, структуры, якая наўпрост з'яўляецца пераемніцай справы Дзяржынскага, і супрацоўнікаў якой з гонарам дагэтуль называюць чэкістамі. Так што чаму можа навучыць такая гімназія школьніка з Дзяржынскім на ўваходзе, да якога абавязаны класці кветкі, — зразумела.

Тлумачэнне такой сітуацыі вельмі простае і ляжыць на паверхні — у Беларусі не толькі не адбылася дэкамунізацыя. У нашай намінальна самастойнай, але фактычна па-ранейшаму залежнай ад Масквы дзяржаве, усяляк насаджваецца культ савецкіх правадыроў, розных герояў „гражданской" вайны, сумніўных чырвоных камандзіраў і герояў сацыялістычнай працы. Культ гэты адраджаецца пуцінскай уладай у Расеі і ўсяляк пераносіцца, транслюецца, экстрапалюецца на Беларусь.

А вось і апошняя навіна — па асабістым распараджэнні начальніка дзяржавы ў Віцебскай вобласці павінен быць усталяваны помнік карове. Паводле папярэдніх разлікаў на гэта з абласнога бюджэту мяркуецца выдаткаваць як мінімум 127 тысяч долараў. Ну а што ў гэтым кепскага, скажаце вы. У тых жа Нідэрландах, ці Нямеччыне шмат дзе можна ўбачыць на вуліцах гарадоў аб'ёмныя выявы тых жа хатніх жывёл. Розніца толькі ў тым, што там такія танныя скульптуры ўстанаўліваюцца экалагічнымі ці фермерскімі, а то і дзіцячымі арганізацыямі сваім коштам, яны выглядаюць як элемент сучаснага гарадскога стрыт-арту і не больш. Тут жа гэтым займаюцца сур'ёзныя дзядзькі-чыноўнікі, ды і сума, якая будзе выдаткаваная на гэтую кароўку-карміцельку для Беларусі вялізная. І што вы думаеце — не сумнявайцеся, неўзабаве гэты помнік усталююць. Гэта ж не нейкі Леў Сапега, якому вось ужо дваццаць гадоў не могуць паставіць помнік у Слоніме. І не Кастусь Каліноўскі, помніка якому няма ні ў сталіцы, ні ў аніводным абласным цэнтры Беларусі.

А можа яшчэ абвесціць конкурс для скульптараў на лепшую выяву гэтай шчаслівай каровы. Падкіну тады мастацкую ідэю і я — помнік карове павінен быць не статычным, а абавязкова ў руху. Рагатая і парнакапытная, яна павінна існі, выглядаць мэтна і пакідаць за сабой „ляпёшкі". І добра, што помнік карове, а не скажам каню. Бо конь жывёла ўсё ж нейкая мілітарная і асацыюецца з кавалерыйскім войскам, а мы ж „беларусы — мірныя людзі". А можа той карове дадаць яшчэ крылы — і будзе сімвал натхнення на ўдарную працу — гэткая карова-Пегас. Праўда, калі з крыламі, то бюджэт на помнік трэба істотна павялічыць.

Дарэчы, яшчэ пару слоў пра гарадскі стрыт-арт. У горадзе над Нёманам апошнім часам значна актывізаваліся мясцовыя камунальнікі. Вулічных скульптур у Гродне стала больш. Але іх мастацкая вартасць дастаткова сумніўная. Чарговая драўляная скульптура да Дня горада з'явілася ў цэнтры. Гэта скульптура турыста-падарожніка. Сама ідэя неблагая, толькі выявілася, што гэты балван са складзенымі чамусьці на каленях рукамі — звычайны плагіят — дакладная копія статуі, якая ўжо некалькі гадоў упрыгожвае далёкі ад нас Іркуцк, што ў Расейскай Федэрацыі. З той розніцай, што там скульптура выканана з металу, а ў Гродне выразана з дрэва. Такі вось канфуз і чарговая дрыгаснасць. Як няма свайго светагляду, то абавязкова цягнуцца за чужым. Як не шануюцца свае нацыянальныя героі, то будуць кленчыць перад захопнікамі. Па-іншаму не можа быць.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Заўсёды ў трусах

Ахапілі мяне ў апошні час благія прадчуванні. Беларусь ляжыць толькі на валасок ад... Крыма, жорстка выдзертага пасля-майданавай Украіне пуцінскай Расіі. А як далёка Польшча? На нішто не здаліся міжнародныя саюзы, палітычныя і ваенныя, пампезныя заявы пра салідарнасць і эканамічныя санкцыі, накіраваныя супраць Расіі. Фактычна, што палітычна Крым падышоў да межаў Беларусі калі не на адлегласць валаска, дык не большую, чым не занадта ўражваючы рост Пуціна. Аднак, улічваючы эга Пуціна, значэнне якога непараўнальнае з метрычнай шкалой, усе межы ён ужо даўно перасек. Можна нават сказаць, што Пуцін ёсць усюды. На працягу доўгага часу рассядаецца ў Беларусі, некаторы час поўна было яго ў Польшчы. І па ўсёй Еўропе. І нават у Злучаных Штатах, якія толькі з ветлівасці не параўноўвае з Сірыяй.... дзе Пуцін таксама ёсць. Што пра гэта думаюць беларусы? Кожны з іх перабіваецца з бульбы на квас. Не палітыка людзям у галовах, а барацьба за выжыванне. Мінімальны пражытковы ўзровень быў нядаўна падняты беларускім урадам да 214 рублёў — 380 злотых. Месяц за менш чым гэты мінімум мусяць выжыць 540 тысяч беларусаў — 5,7 адсотка насельніцтва. Гэта азначае, што многія грамадзяне жывуць ва ўмовах крайняй галечы, а палова, або нават траціна іх кранаецца экзістэнцыяльнай беднасці. Ускосна, дарэчы, гэта ўплывае на ўсіх.

Чалавечае грамадства з'яўляецца свайго роду сістэмай злучаных сасудаў. Напэўна, на ўзроўні інфармацыі. Нягледзячы на прапагандысцкую ману лукашэнкаўскага рэжыму і знішчэнне незалежнай журналістыкі, інфармацыя аб пастаянна глыбеючым эканамічным спадзе гаспадаркі пранізвае ўсе сацыяльныя пласты. Расце расчараванне і агульная незадаволенасць. Улада можа часова не накіраваць, напрыклад, вінаваціўшы за ўсё ўнутраных і знешніх ворагаў, ці нават часова спыніць, кідаючы галодным нейкую моркву. Гэта было, як памятаем, чарговае абяцанне сістэмных рэформ так рыначных, як і сацыяльных. Узамен беларускія ўлады чакалі экстраннай фінансавай дапамогі з боку заходніх інстытутаў. Грамадства спадзявалася на лепшыя часы. Аднак кіраваны дэкрэтамі прэзідэнта беларускі ўрад не мае намеру адмовіцца ад аўтарытарнай мадэлі ўлады, таму што на гэтым заснавана яе логіка і сэнс, і сытае існаванне. Таму Еўра-Азіяцкі фонд развіцця (EAFR) спыніў раней дэклараваны плацёж у памеры 800 мільёнаў долараў фінансавай дапамогі. Такім чынам, Беларусь значна наблізілася да Крыма. Або пуцінскі Крым падсунуўся яшчэ бліжэй да Беларусі. Гэта даказвае адзін мільярд долараў расійскага крэдыту для ўрада Лукашэнкі. Гэта вялікі, смачненькі пернік для... Лукашэнкі і яго світы. Штосьці падскубне з яе самое беларускае грамадства. Але няхай хтосьці спрабуе есці пернікі кожны дзень на сняданак, абед, вячэру... Акрамя таго, вядома, — за пернікам ідзе бізун. Нічога добрага не прадвяшчаюць словы Пуціна, якія ён выказаў на красавіцкай сустрэчы з Лукашэнкам: «Мы будзем ісці далей, умацоўваць нашы саюзніцкія адносіны ў рамках саюзнай дзяржавы...». Эх, Крым ужо трэцца бокам аб Беларусь. Прадчуваю благое.

Са здагадкамі так бывае, што не заўжды здзяйсняюцца. Нядаўняя хваля гарачыні прывяла мяне да задумы, каб пакупацца ў рачной ванне. Яна доўгая, звілістая і не занадта шырокая — рыхтык для мяне, даўгуна. Адкрыў я раней пясчаны пляжык у выгібе Нарвы і там пачаў голенькі плюхацца. Птушачкі пырхаюць у чаратах, над вадой стракозы, пялёскаецца рака, вакол нялюдскі спакой... і мыльца, што ўпарта выслізгваецца з рукі. Я больш шукаў у цёмных глыбінях таго мыльца, чым намыльваўся. Мой азадак з-над вады прысаромліваў Сонца. Ну, вядома ж, у гэты момант тут як тут мае праплысці байдарачны паход. З хіхатаннем дзеўчукоў ... Ну, купель у рэчцы мае нешта з экстрэмальных відаў спорту. Але паход не праплыў. Але ж як я натаміўся і напалохаўся! Пасля паглядзеў на You Tube фільм Міхалкова «Стомленыя сонцам 2», даўжэзны, у дзвюх частках. У агульнай складанасці непрыемныя перажыванні. Столькі гадоў пасля вайны, а Расія дагэтуль узгадоўвае этас «радзімага» гераізму і надалей сталінскай ідэалогіі расійскага нацыяналізму. Гэта таксама не прадвесціць дабра свету.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Дзікі ў Беластоку

Удалым аказаўся ў нас верасень у гэтым годзе. Надвор'е летняе, але не спякотнае. Для ўборкі бульбы, гароднiны і садавіны лепшага і не прыдумаеш. Пладатворная зямля багата ўзнагародзіла рупліўцаў сваім ураджаем. Асабліва ў садах яблыні гнуцца і ломяцца пад цяжарам пышнакаляровых і сакавітых кругляцей. На агародах усе тыкванныя растуць як шалёныя да імпазантных памераў. Сярод іх розных колераў, кшталтаў, смакаў у бласлаўлёным задавальненні выстаўляюць сябе да сонечных промняў самі каралевы дыні. Вяртаюцца ізноў яны да ласкі чалавечых смакаў. Раней доўгімі гадамі былі толькі кормам для кароў і свіней. Адчувальная цеплыня дазволіла многім аматарам дачнай гадоўлі вырасціць спелыя па велічыні і смаку абрыкосы і персікі. Пад маім блокам гэтую смакавітую садавіну з беластоцкіх агародчыкаў прадавалі дзелавітыя ўласніцы дачных участкаў. Ну і жоўтыя памідоры адной з бабулек прыводзілі мае смакавыя рэцэптары ў такі стан задавальнення, што інакш чымсьці кайфам гэтых пачуццяў не назавеш.

Аднак ад свайго беластоцкага дзядзькі пачуў я гісторыю, якая паказвае, што прырода ўвесь час знаходзіцца ў зменлівым вандраванні. Менавіта тут, у Беластоку, у цэнтры горада ягоную дачу і пасаджаную там бульбу вельмі ўпадабалі сабе дзікі, якія для многіх беластачан сталі непажаданымі гасцямі. І не было выхаду, трэбы было ісці на начную варту і пільнаваць сваю агародніну перад канчатковым знішчэннем. Калі пазваніў я бацьку і запытаўся як там у нас з дзікамі, то ў адказ пачуў, што іх амаль усіх тут перабілі. Не відаць і не чуваць, каб нейкі дзік уварваўся ў вясковыя агароды, каб хтосьці пра гэта распавядаў. Відаць, і самі дзікі сваім пушчанскім інстынктам адчулі, што ў лясных і лугавых прасторах іх могуць чакаць толькі канцы. Таму ў адпаведнасці з усялякай логікай сённяшняй партызаншчыны дзеля выжывання і самазахавання дзічынага гатунку трэба пераносіцца ў горад. Вось як спрацоўвае інстынкт. Мой знаёмы варыст, якому знаёмая кожная беластоцкая сцяжынка, абсалютна пераканаўча сцвярджае, што так парытага дзікамі Беластока як зараз ніколі не бачыў. Затое мой бацька падсмейваецца са свайго брата, гаворачы яму: «Бачыш, уцякаў з вёскі, каб між іншым не хадзіць і не пільнаваць пушчанскіх палёў ад лясной звярыны. А тут на старыя гады маеш тое, чаго я ў абязлюджанай вёсцы даўно не сустракаю». Многім неспадзявана жыццё зводзіць і такія сямейныя гісторыі. Але, відаць, надалей гэтыя начныя варты майму дзядзьку, бо па тэлефоне паўтарае, што на восень засее толькі траву і хай дзікі рыюць у каго іншага. Пэўна наступнай вясной усё вернецца ў сваю каляіну, але пакуль ваяўнічасць і злосць на дзікоў у яго не мінае.

Затое на родных загонах сланечнікі павырасталі высокімі пад два метры і не пустымі. Тут жа і зараз з'явіліся мітуслівыя вераб'і, каб заваліцца ў свае зерневыя смакоцці. Так яны задаволены, што шчабечуць і чырыкаюць безупынна. У вясковай пранізлівай цішыні сваім прылётам гудзяць так, быццам над дахамі праляцела некалькі вайсковых верталётаў абцяжараных тэхнікай і жаўнерамі. Так, як над Белавежскай пушчай пачаліся нейкія засакрэчаныя вайсковыя манёўры, дзе ізноў безупынна практыкуюць лабавое сутыкненне Усходу і Захаду. Адна з народных прымавак кажа, каб не выклікаць ваўка з лесу. А то не дай Божа, каб за чарговым разам не было падобнага ў рэальнасці. Тэорыя збывальнасці выкліканых падзей лепш каб не спрацавала.

На момант здаецца мне, што жывому чалавечаму і жывотнаму гарманічнаму сужыццю не відаць канца. Перад намі аднак дажджлівая восень, зіма і касуха, што крочыць услед за чалавечымі галовамі і душамі. Ад напісанага лёсу не ўцячэш, але прынамсі пачынаеш разумець, што трэба ўмець любавацца тым, што абдоранае прыгажосцю і дабром. Радавацца і начам зорным, цёплым і шпацырным. Ідэальны час, каб без той усёй канікулярнай мітусні ўвабраць у сябе водар восеньскіх пахаў і вобразаў. Час роздумаў і асэнсаванняў, час зазірнуць у сябе праз недасяжнасць нябесных прастораў.

**Яўген ВАПА**

# Фінал Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе ў Гайнаўцы

Звыш сямісот пяцідзесяці чалавек з Польшчы, Беларусі, Расіі, Германіі і Злучаных Штатаў Амерыкі спаборнічалі ў фінале Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе, які 8 верасня ў час цёплага і сонечнага надвор'я быў наладжаны Польскай федэрацыяй «Nordic Walking», Павятовым старраствам у Гайнаўцы і Гайнаўскім надлясніцтвам па сцяжынках Белавежскай пушчы ў Гайнаўцы і яе наваколлі. У гэтым годзе з Рэспублікі Беларусь не прыехаў на гайнаўскія спаборніцтвы баскетбаліст з Гродна Андрэй Дзядзевіч, які два гады і год назад станавіўся агульным пераможцам Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе на самай прэстыжнай дыстанцыі, паўмарафоне, здабываючы першае месца ў Гайнаўцы і амаль ва ўсіх іншых мясцовасцях, дзе адбываліся змаганні за кубак Польшчы. У мінулым годзе заснаваў ён Беларускую федэрацыю скандынаўскай хадзьбы і ўжо ў гэтым годзе як старшыня федэрацыі стаў арганізаваць спаборніцтвы па скандынаўскай хадзьбе ў Беларусі. Мае суразмоўцы з Польшчы пахвалілі добрую арганізацыю ў Мінску спаборніцтваў па скандынаўскай хадзьбе за Кубак Еўропы, якія пазней праходзілі ў Польшчы і іншых еўрапейскіх краінах. Затое ў гайнаўскім фінале прыняла ўдзел жонка Андрэя, Наталля Дзядзевіч, якая прыехала ў Белавежскую пушчу з камандай з Беларусі. Жыхары Гайнаўскага павета ішлі перш за ўсё на дыстанцыі 5 кіламетраў і дабіліся канкрэтных поспехаў. У катэгорыі 18-29 гадоў гайнаўская белліцэістка Патрыцыя Дзедзік заняла другое месца і апынулася на дзясятым месцы ў агульнай класіфікацыі кубка Польшчы, паколькі змагалася толькі ў Гайнаўцы. Пятае месца ў сваёй узроставай катэгорыі заняў гайнаўскі бягун, а ў свой час марафонец Аляксандр Пракапюк. Спаборніцтвы па скандынаўскай хадзьбе за Кубак Польшчы арганізуюцца ў Гайнаўцы і наваколлі з 2012 года і сталі ўжо традыцыяй.



Дыстанцыю 5 кіламетраў прайшлі таксама вучні гайнаўскіх пачатковых школ



Пётр Няхвейчык са Свентахловіцаў — пераможца ў катэгорыі 40-49 гадоў на дыстанцыі 10 кіламетраў



Пятае месца заняў марафонец Аляксандр Пракапюк

На маршруты спаборніцтваў з пляцоўкі Гайнаўскага надлясніцтва спачатку выходзілі аматары хадзьбы на дыстанцыі 21 і 10 кіламетраў. Афіцыйнае адкрыццё мерапрыемства адбылося перад стартам самай шматлікай групы ўдзельнікаў на дыстанцыі 5 кіламетраў. Са сцэны прамаўлялі стараста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк, прадстаўнікі Дзяржаўных лясоў і Польскай федэрацыі скандынаўскай хадзьбы. Удзельнікі спаборніцтваў разаграваліся з трэнерам па скандынаўскай хадзьбе Эдытай Кэндзерскай і акцёрамі Тамарай Арцюх і Барташам Каспшыкоўскім. На дыстанцыю 5 кіламетраў выйшла многа моладзі гайнаўскіх школ. Былі таксама падапечныя Майстар-класаў па працатэрапіі і Дома сацыяльнай дапамогі ў Гайнаўцы. Перад самым стартам можна было яшчэ пазычыць палкі, у ходзе спаборніцтваў раздавалася вада для ахалоды, а пасля прыходу на мэту можна было з'есці спецыяльнае харчаванне дзеля ўзмацнення арганізма.

— Ужо трэці раз у Белавежскай пушчы праходзіць фінал Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе. Фінал — гэта прамоцыя Гайнаўскага павета на ўсю краіну і замежжа, а таксама прапагандаванне здаровага ладу жыцця. Аматары гэтага віду спорту з розных рэгіёнаў Польшчы і замежжа даюць станоўчы прыклад нашым людзям, як, дбаючы пра сваё здароўе, можна хадзіць з палкамі ў руках. Многа ўдзельнікаў сённяшняга фіналу гэта ўжо жыхары нашага рэгіёна, якія пачалі хадзіць з палкамі па нашай пушчы, Гайнаўцы і іншых мясцовасцях, — заявіў стараста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк.

Многім мясцовым удзельнікам спаборніцтваў важным было прынамсі спакойна прайсціся з палкамі па пушчанскіх сцяжынках і адпачыць падчас сонечнага і цёплага дня. Мае прыезджыя суразмоўцы захапляліся прыгожасцю Белавежскай пушчы. Выдатна запрэзентаваліся ў гайнаўскім фінале сябры Андрэя і Наталлі Дзядзевічаў — Пётр Няхвейчык і Марыёля Пасікоўская, якія ў сваіх катэгорыях здабылі прызавыя месцы на дыстанцыі 10 кіламетраў. Поспехаў дабіліся яны таксама ў Мінску падчас першых спаборніцтваў па скандынаўскай хадзьбе за Кубак Еўропы.

— Андрэй Дзядзевіч — незвычайны чалавек з незвычайна моцным арганізмам. Ён прыязджаў у мінулых гадах з Беларусі і перамагаў на дыстанцыі 21 кіламетра амаль ва ўсіх спаборніцтвах па скандынаўскай хадзьбе ў Польшчы. У мінулым годзе заснаваў ён Беларускую федэрацыю скандынаўскай хадзьбы і ўжо ў гэтым годзе як старшыня федэрацыі стаў арганізаваць спаборніцтвы па скандынаўскай хадзьбе ў Беларусі. Я ў гэтым годзе прымаю ўдзел таксама ў спаборніцтвах па скандынаўскай хадзьбе за Кубак Еўропы на дыстанцыі 10 кіламетраў, якія пачаліся менавіта ў сталіцы Беларусі Мінску. Пазней такія спаборніцтвы праходзілі ў Польшчы і іншых еўрапейскіх краінах. Я разлічваю на перамогу на гэтай дыстанцыі ў змаганні за Кубак Еўропы, — сказаў сябра Андрэя Дзядзевіча, Пётр Няхвейчык са Свентахловіцаў. — Тут вельмі добрыя сцяжынкі, прыгодныя для фіналу Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе. Белавежская пушча нас усіх захапляе.

— Мы, пастаянныя ўдзельнікі спаборніцтваў па скандынаўскай хадзьбе, ведаем адзін аднаго. Андрэя Дзядзевіча сёння няма з намі, але прыехала яго жонка Наталля з камандай з Беларусі. Я дабілася другога месца на дыстанцыі 10 кіламетраў. Разлічваю таксама на прызавое месца на спаборніцтвах за Кубак Еўропы, — сказала Марыёля Пасікоўская.

Пятае месца ў сваёй узроставай катэгорыі заняў гайнаўскі бягун, а ў свой час марафонец Аляксандр Пракапюк. Раней дабіваўся ён добрых вынікаў бегаючы на розных дыстанцыях, нават 100 кіламетраў.

— Нядаўна я з добрым вынікам прыбег на мэту ў час бегу катаржніка, які праходзіў у Люблінцы, дзе трэба было бегаць у вельмі дрэнных умовах. Апошнім часам у мяне сапсавалася здароўе і хіба трэба будзе адмовіцца ад доўгіх дыстанцый, але хадзіць з палкамі маю намер надалей. Сёння пяць сапернікаў у маёй катэгорыі адскочыла ад мяне ўперад, але свайго сябра я дагнаў перад мэтай і яшчэ апярэдзіў, — заявіў марафонец Аляксандр Пракапюк з Гайнаўкі, якога род выводзіцца з падгайнаўскай Катоўкі.

Маршрут даўжынёй 5 кіламетраў прайшлі вучні Гайнаўскага белліцэя разам са сваімі настаўніцамі Ірэнай Грыгарук і Бажэнай Шакала-Ефімюк.

— З нашага ліцэя прыбылі з намі 26 вучаніц, якія пойдуць з палкамі. Сярод валанцёраў сённяшняга мерапрыемства ёсць таксама вучні нашай школы, — сказалі яшчэ перад стартам настаўніцы фізкультуры Ірэна Грыгарук і Бажэна Шакала-Ефімюк.

— Некаторыя з нас хадзілі з палкамі ўжо раней, іншыя прыбылі сюды ўпершыню. Сёння прыгожае надвор'е і хочацца прайсціся па Белавежскай пушчы, — заявілі гайнаўскія белліцэісткі.

Ва ўзроставай катэгорыі 18-29 гадоў гайнаўская белліцэістка Патрыцыя Дзедзік заняла другое месца і апынулася на дзясятым месцы ў агульнай класіфікацыі кубка Польшчы, паколькі змагалася толькі ў Гайнаўцы, а яе школьная сяброўка Карнелія Барэчка заняла ў Гайнаўцы дзясятае месца. У катэгорыі юніёрак гайнаўскія белліцэісткі занялі таксама добрыя месцы: Юлія Іванюк — 7, Анна Сахарук — 8, Габрыеля Непагода — 9, а Наталля Данілюк — 10. Удала 5 кіламетраў прайшоў сёлета Барташ Яканюк, вучань сёмага класа Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы, часты пераможца дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова».

— Я да спаборніцтваў спецыяльна не рыхтаваўся, але хацеў спраўдзіць свае магчымасці і рады, што ў сваёй катэгорыі заняў дзясятае месца ў Польшчы. У мяне ёсць многа зацікаўленняў, між іншым цікавіць мяне сельская гаспадарка, — сказаў Барташ Яканюк, а яго мама дабавіла, што яшчэ гэтага самага дня паедзе ў Дубіцкую гміну, дзе бацька будзе прывучваць Бартка араць поле.

Наймалодшым дзеткам былі наладжаны міні-спаборніцтвы на дыстанцыі 400 метраў. Пасля спаборніцтваў перад спартсменамі і публікай выступілі калектыў «Чарамшына» з Чаромхі і хор Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы. Пераможцы ўзнагароджваліся кубкамі і падарункамі. Адбылася таксама жараб'ёўка падарункаў, якіх фундатарамі былі спонсары, у тым ліку мясцовыя самаўрады. Аматары скандынаўскай хадзьбы маглі праехацца чыгункай па Белавежскай пушчы, што было асаблівым атракцыёнам прыезджым спартсменам, якія ўпершыню пабывалі ў пушчы. Частка ўдзельнікаў спаборніцтваў прыняла ўдзел у інтэграцыйных гульнях на ўскраіне пушчы. Шмат гайнавян і жыхароў суседніх мясцовасцей дапамагалі арганізатарам гэтага вялікага спартыўнага мерапрыемства ў якасці валанцёраў. Асабліва важным было адпаведна падрыхтавацца падчас трэніровак, каб бяспечна прайсці дыстанцыі 21 і 10 кіламетраў. Больш рэкрэацыйным быў 5-кіламетровы маршрут, але і тут дзя інтэнсіўнай працы прымушаліся ва ўдзельнікаў спаборніцтваў мышцы ног, рук, плячэй і іншых частак цела. Гайнаўскія лекары інфармуюць, што бегаць не ўсе могуць з-за розных хвароб, а з палкамі рэкамендуюць хадзіць пацыентам розных узростаў.

— Вельмі прыгожая Белавежская пушча і хадзіць па ёй вельмі прыемна, — заявіла жанчына, якая прайшла 10 кіламетраў.

Многа ўдзельнікаў фіналу Кубка Польшчы па скандынаўскай хадзьбе начавалі і харчаваліся ў агракватэрах Гайнаўскага павета. Начлегі не былі дарагімі і далі прыбытак мясцоваму насельніцтву. Мода хадзіць з палкамі паводле стандартаў па скандынаўскай хадзьбе прынялася ўжо ў Гайнаўцы і бачна гэта на вуліцах прыпушчанскага горада. Раней спаткаў я нават вясковую жанчыну гадоў сямідзесяці пяці, якая адвячоркам хадзіла з палкамі ў руках.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

# Шляхам ручніковым...

Доктар **Ірэна Матус**, гісторык — калекцыянерка падляшскіх ручнікоў. На канферэнцыі пра еўрапейскія культурныя маршруты, якія ўжо існуюць і развіваюцца, запрапанавала маршрут, якога яшчэ няма. Канферэнцыйныя сталы ў Падляшскім музеі народнай культуры, які ўзнік з Беластоцкага музея вёскі і аддзела этнаграфіі Падляшскага музея ў Беластоку — пад Васількавам — аздобіла частка яе калекцыі (мае пакуль 200 асобнікаў гэтай адмысловай і рытуальнай аздобы). Задумала яна шлях падляшскага ручніка, які прыцягнуў бы, несумненна, шмат даследчыкаў і аматараў народнай культуры.



■ Першая злева д-р Ірэна Матус

— Мой даклад іншы, чым іншых дакладчыкаў. Яны расказвалі пра шляхі, якія спрацавалі, якія наведваюць тысячы турыстаў. Мой прапанаваны турыстычны маршрут меў бы назву Шлях падляшскага абрадавага ручніка. Чаму ручнік? Ручнік належыць да тых прадметаў, вырабаў традыцыйнай народнай культуры, які з'яўляецца своеасаблівым феноменам, вельмі важным. Я лічу, што гэты прадмет варты занясення нават у спісак ЮНЕСКА. Гэта рэч незвычайная, хаця паўсядзённая. Абрадавы ручнік з'яўляецца рэччу характарнай усходнім славянам, але на нашым, шматкультурным Падляшшы, з 'яўляецца ён таксама феноменам пранікання культур. Хачу вам паказаць таксама такія ручнікі са сваіх збораў, з вёсак, дзе пражывае таксама польскае насельніцтва. Я спадзяюся на падтрымку маёй задумы стварэння такога шляху, на ацэнку яе навукоўцамі і практыкамі, ці варта такі культурны маршрут на Падляшшы стварыць.

Пра абрадавы ручнік можна гаварыць гадзінамі ці нават днямі. Чаму ён такі важны? Спачатку адзначу, што ручнікі розныя. Ёсць звычайны ручнік, штодзённага ўжытку. Я паведу свой расказ аб дэкаратыўным ручніку, абрадавым, сімвалічным. Ручнік заўсёды быў цікавай крыніцай інфармацыі, быў адбіткам гісторыі народа. У дэфініцыі ручніка змяшчаецца спецыфічнае бачанне аўтаркай акаляючай прыроды і яе ўява аб свеце. Ручнік напамінаў таксама пра нябачныя сувязі з продкамі. Быў пасрэднікам паміж гэтым, нашым светам, светам людзей жывых, і патойбаковым светам. Выступаў выключна ў пазітыўных асацыяцыях. Памагаў адчытаць наканаванае. Паказваў на прастору з рысамі боскасці. Напамінаў аб Богу. Ручнік быў таксама своеасаблівым злучальнікам з сіламі найвышэйшымі. Быў сімвалам Роду. Форма ручніка сімвалізавала дарогу. Быў выкарыстоўваны ў тыя моманты жыцця, калі чалавек пераскакаў дарогу. Напамінаў ад няўмольнай смерці. Меў таксама сціслую сувязь з сімволікай хлеба, хлеба, які быў сакралізаваны. Быў своеасаблівым прыкладам бласлаўлення, сімвалізаваў парог, які чалавек пераступаў. Абрадавы ручнік на Падляшшы спадарожнічаў чалавеку ад моманту нараджэння, аж да канца яго жыццёвай вандроўкі. Ручнік — супольны для ўсёй усходняй Славяншчыны, але мае кароткую пісаную гісторыю. Толькі на пераломе XIX і XX стагоддзяў сталі аб ім успамінаць. Але маем і ранейшыя інфармацыі аб ручніках. У 1886 годзе славутая знаходка каля 200 срэбных манет, завязаных у ручнік, які паходзіў яшчэ са старарускіх часоў. Першы ілюстрацыйны матэрыял аб ручніку — Біблія Францыска Скарыны, — столік прыкрыты ручніком. Той ручнік не прыпамінае пазнейшых XIX-вечных ручнікоў, але вельмі цікавы. Ёсць на ім салярны элемент — Сонца, і доўгія фрэнзлі. Толькі тады, калі крышталізуецца галіна культуры, якой будзе этнаграфія, — тады ўжо маем першыя апісанні і ілюстрацыйны матэрыял — гэта пералом XIX і XX стагоддзяў. А пісаная гісторыя ручніка — гэта ўжо XX стагоддзе.

Прызначэнне звычайнага ручніка — штодзённае, а абрадавага — дэкаратыўнае, абрадавае, ручнік у царкоўнай традыцыі, у абрадна-аграрным цыкле, выкарыстоўваны ў магічных абрадах, як абярэг, у абаронных мэтах, і ручнік як падарунак. Ручнік быў дэкаратыўным элементам храмаў, навешаны быў на іконы практычна ўва ўсіх вясковых цэрквах, асабліва на ферэтроны, якія выносіліся, навешаны быў на Галгофу, перавязвалі таксама распятага Хрыста — у гэтай форме захаваўся найдаўжэй. У жыллі ручнік быў абавязковым элементам святога кута — покуцця. На іконы вешалі яго ў розных формах — або адзін доўгі, які акрываў ікону; калі паявіліся друкаваныя іконы вялікіх памераў, тады часта навязвалі на іх некалькі ручнікоў, напрыклад тры, як у Святой Тройцы — адзін пасярэдзіне і два па баках. Пасля, асабліва пасля Другой сусветнай вайны, ручнік становіцца дэкаратыўным элементам на «вялікай хаце» — вешалі яго на люстрах, на іконах, на партрэтах, а таксама на вешалкі, для аздобы сцяны. Ручнік выкарыстоўваўся таксама ў малой архітэктуры краявіду. Дэкарыравалі ручніком крыжы на канцы і пачатку вёскі, крыжы ватыўныя, а таксама прыдарожныя і магільнікавыя крыжы. На крыжы на магіле мужчыны вешалі ручнік, на магілах жанчын часта гэта былі хвартушкі. Цяпер найчасцей на праваслаўных могілках на крыжах завешваюцца стужкі.

Абрадавая роля ручніка, які спадарожнічаў чалавеку ад самага нараджэння. У выпадку нараджэння і хрышчэння ручнік выконвае ролю абярэгу і ачышчэння. Ужо парадзіха ўжывала ручнік, якім прыадкрывалі або неслі свянцонку — такі ручнік вешалі на кручку на бэльцы і парадзіха трымалася за яго канцы, верыўшы, што прынясе гэта шчаслівае нараджэнне і здыме боль. Нованароджанае дзіцятка атулялі ў абрадавы ручнік, потым бабка, якая прымала роды, чыніла розныя рытуалы над ручніком, вельмі важным у іх элементам. Калі прыходзілі ў адведкі, у дары прыносілі ручнік, кума і кум таксама абавязкова неслі ручнік і хлеб. Ручнік кумы быў пасвечаны ў час хросту. У старадаўнім падляшскім звычаі ўвядзення немаўляці ў род баба, прымаючая роды, у свіце бацькоў або кумоў абносіла дзіця па хаце, кланяючыся покуцям. Яшчэ не так даўно такі звычай бачыўся ў Дубяжыне.

Ні адно вяселле на Падляшшы не магло абысціся без ручніка. Ужо дванаццацігадовыя дзяўчаты шыкавалі ручнікі, бо былі яны вельмі важныя ў пасагу. Ужо запрашаючы гасцей будучая маладая ішла з ручніком, які быў своеасаблівым бласлаўленнем. Калі сваталіся, неслі хлеб, гарэлку і ручнік. Непасрэдна ў вясельным абрадзе ручнік выконваў ролю бласлаўлення. На ручніку неслі ікону, ручнік рассцілалі ў храме, на ім ставала маладая, на ручніку выносілі каравай. Ручнік быў сімвалам і казаў пра прыналежнасць да роду. Маладая павінна была прэзентаваць ручнікі старэйшаму дружбанту, вясельнаму маршалку, старасцісе. Быў ён таксама сімвалам, які спалучаў — вязалі або абкручвалі ручніком рукі маладых... Захаваўся вельмі цікавы звычай, апісаны Келясцінам Брэнам, духоўнікам, які апісваў заручыны — ручнік тут вязалі на заручынах, а пасля выступае ён у форме падарунка. Маці маладое некалькі разоў прэзентуе такі ручнік вясельнаму старосту, а маладая дае ручнік у падарунку будучым сваім свёкрам — па ручніку на ікону. Таксама пасаг, які ўносіла маладая, змяшчаў адпаведную колькасць ручнікоў. Па іх ацэньвалася майстэрства гаспадыні, яе працавітасць. Калі ўваходзіла ў дом мужа, на сцяне на спецыяльным цвіку прэзентавала свае ручнікі. Ручнік выкарыстоўваўся таксама пасля першай ночы пасля вянца. Калі свякруха вітала сваю нявестку ў сваім доме, несла рытуальную страву — яешню, і абавязкова — ручнік. Маладая, у форме ўкуплення ў новую сям'ю — тут таксама паклон у бок язычніцкіх вераванняў, дамавікоў, — завешвала такі ручнік у жытле, сыпала пад яго збожжа.

І апошняя дарога... У кожнай сям'і гаспадыня трымала ручнік на «чорную гадзіну». Калі паміраў сем'янін, мылі яго і выціралі ручніком, які пасля адпаведна ўтылізаваўся. Ад ваколіц Орлі да Кляшчэль да сення захаваўся звычай завешвання ручніка на іконы. Лічылася што не будзе здзейснены вельмі важны рытуал, калі зараз пасля моманту смерці не павесіцца на ікону новага чыстага ручніка. Згодна з народнай традыцыяй, верылася, што голая душа там знаходзіць схоў. Яна прабывае за гэтым ручніком, ён з'яўляецца яе адзеннем. Калі гэта не выканаецца, тая душа можа не трапіць у царства нябеснае... Ручнік часта клалі ў труну, ручнікі прыкрывалі пакойніка. Калі памірала дзяўчына, як яе пасаг клалі ў труну ручнікі. Трункі малых дзетак неслі на ручніках. На ручніках апускалі труну ў магілу. Ручнік вешалі на крыж, прынесены з храма, за якім ішлі ў час пахавін.

Розныя былі метады аздаблення ручнікоў. Найстарэйшы ручнік — гэта ручнік ткан, у колерах чырвона-чорных — жыцця і смерці. Паяўляўся часам колер блакітны — колер боскасці, надзеі. На пераломе XIX і XX стагоддзяў паяўляецца вышыўка крыжыкам, у геаметрычныя, зааморфныя ўзоры, паяўляюцца надпісы. Колеры такія ж, як пры тканым ручніку — у пераборах, а пад канец дваццатых гадоў паяўляюцца новыя ўзоры, узор атласны, плоскі. Крыжык занікае. Ручнік становіцца рознакаляровым, разбудоўваецца яго заканчэнне — карункі. І найбольшы феномен ручніка — у пасляваенныя гады. Пасля Другой сусветнай вайны наступае рэнесанс, неверагодны росквіт ручніка, ужо каляровага. Ручнік становіцца шырэйшым, даўжэйшым, з багатымі карункамі...

Уявіце сабе — сярод двухсот ручнікоў не паўтараецца ані адзін узор! Якая была мастацкая творчасць, уява нашых мам, бабуль, прабабуль.

Лёсы ручнікоў — самыя розныя. Шмат з іх знішчана, асабліва тыя найстарэйшыя, — быццам яны брыдчэйшыя, бо некаляровыя. Таму неабходна іх ратаваць. Трасцянка, Стрыкі, Локніца, Кляшчэлі, Дабрывада... І польскія вёскі, якія прынялі ад праваслаўных спосаб завешвання ручнікоў на крыжах. Прывозіліся таксама крыжы з бежанства... І міжваенны перыяд, калі паяўляюцца на вышыўцы кветкі, яшчэ незапоўненыя, дробныя.

Маю такую прапанову, — сказала доктар Ірэна Матус, — каб стварыць шлях падляшскага ручніка. Спадзяюся, што далучацца да маёй прапановы падляшскія музеі, ад Бельска — да Беластока. І ў Рыбалах ёсць вялікая калекцыя. Лічу, што патрэбнае тут і трансгранічнае супрацоўніцтва. Гэта наш еўрапейскі скарб.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

## Нарваўская дэмаграфія

У Нарваўскай гміне Гайнаўскага павета 47 вёсак і вёсачак, у тым ліку 39 салэцкіх. Найбольшыя гэта Нарва (пражывае ў ёй 1435 чалавек), Трасцянка (204), Ласінка (179), Тыневічы-Вялікія (128), Крывец (127), Макаўка (116), Гарадзіска (86), Адрынкі (84), Сацы (73), Агароднікі (67), Ляхі і Анцуты (па 64), Ваські (58), Гародчына (48), Храбустоўка (47), Тыневічы-Малыя (44) ды Прыбудкі і Новіны (па 43). Ва ўсёй гміне пражываюць 3532 чалавекі, а ў 2016 годзе было 3618. Лік жыхароў Нарваўскай гміны — як аўтарытэтна сцвярджаюць у тамашнім ЗАГСе — з кожным годам меншае і меншае. Вёскі Нарваўшчыны даволі хутка становяцца бязлюднымі.

Да меншых і найменшых вёсак належаць Ванева — 40 жыхароў, Кавела і Пухлы — па 39, Катлоўка — 38, Даратынка — 36, Козлікі, Лапухоўка, Рагозы і Пухлы — па 35, Рыбакі — 33, Істок і Кутавая — па 32, Бялкі — 30, Градочна — 29, Сакі — 23, Янова і Падбаравіска — па 20 жыхароў, Радзькі — 17, Цімахі і Іванкі — па 15, Гарэнды і Скарышэва — па 12, Граматнае — 9, Уснаршчына — 8, Пашкоўшчына — 7, Брушкоўшчына — 5, Цісы, Забалацце і Гайдукоўшчына — па 2 ды Качалы — толькі 1 жыхар.

Ад 30 чэрвеня 2017 года да 20 мая 2018 года пабольшала жыхароў у Нарве, Гародчыне, Пухлах, Саках і ў Трасцянцы ды паменшала ў трынаццаці вёсках — найбольш у Агародніках, Васьках, Кавяле, Ласінцы, Ляхах, Храбустоўцы, Тыневічах-Вялікіх, Тыневічах-Малых, Прыбудках, Рагозах, Рыбаках і ў Янове.

Нарваўская гміна займае плошчу ў 24 тысячы гектараў. Насельніцтва размешчана па тэрыторыі гміны нераўнамерна. Ніжэйшая шчыльнасць — 15 чалавек на 1 квадратны кіламетр — там, дзе знаходзяцца дзяржаўныя лясы (займаюць яны 35,2 % усёй тэрыторыі), балоты. У нацыянальных адносінах насельніцтва гміны неаднароднае: жывуць тут беларусы і палякі.

Сёлета сем пар атрымае медалі „За шматгадовае шлюбнае сужыццё" (у мінулым годзе атрымалі іх дзевяць пар). У гміне на 100 мужчын прыпадае 105 жанчын. Зараз тут стагадовых жыхароў няма.

## Гродзіская дэмаграфія

Гродзіская гміна Сямятыцкага павета займае плошчу ў 20 331 гектар. Пражывае тут 4 500 чалавек (у 2000 годзе пражывала 4 700). У самім Гродзіску жыве каля 600 асоб. Шчыльнасць насельніцтва складае 21 чалавек на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае 95 жанчын. Ва ўзросце 85 і больш гадоў жанчын ёсць тры разы больш чымсьці мужчын.

Сёлета ў Гродзіскай гміне восем пар святкавала 50-годдзе шлюбнага сужыцця. Улады гміны запрасілі іх на ўрачыстасць у Гродзіск. На яе прыехалі Зося і Францішак Ангельчыкі, Рэгіна і Антон Фалькоўскія, Марыя і Уладзімір Глухоўскія, Зося і Станіслаў Каральчукі, Ядвіга і Францішак Клімкевічы, Станіслава і Уладыслаў Капчэўскія, Галена і Ян Мухі ды Марыя і Людвік Наумякі. Усе яны ад прэзідэнта РП атрымалі медалі „За шматгадовае шлюбнае сужыццё". Юбілярам зычым пражыць супольна чарговыя гады ў шчасці і здароўі.

## Лавачкі

Летам многія жыхары Гайнаўкі, першнаперш пенсіянеры, ходзяць з малымі дзяцьмі, а некаторыя з сабачкамі на шпацыр у парк, адпачываюць на лавачках на скверыках. У Гайнаўцы лавачак шмат. Пра гэта паклапаціліся гарадскія ўлады. Многія лавачкі знаходзяцца пад дашкамі. Тады і дождж не страшны, ёсць дзе схавацца ад яго.

Прыгожыя драўляныя (гэта важна, яны прыязныя чалавеку) карычневага колеру лавачкі сустрэнем на вуліцах 3 Мая, Пілсудскага, Баторыя, Верабея, Ліпавай, Ракавецкага і іншых. На іх можна пасядзець у гарадскім парку, на скверыках ля галоўнай вуліцы 3 Мая, ды каля скрыжавання з кругавой развязкай вуліц 3 Мая, Варшаўскай, Паркавай і Верабея. Сёлета шматлікія з іх аднавілі, памалявалі.

(яц)

*Да юбілею 60-годдзя «Белавежы»* БЕЛАВЕЖА



# ВЯНОК УСІМ «БЕЛАВЕЖЦАМ»

У 34 нумары «Нівы» прачытаў я рэцэнзію знакамітага беларускага крытыка Сяргея Чыгрына на кнігу крытычных артыкулаў Алы Петрушкевіч «Белавежа. Аўтары, постаці і героі», якая з'явілася пад сам юбілей «Белавежы». Кніга мяне менавіта пацешыла не тым, што там ёсць рэцэнзія на мой зборнік але ўвогуле, што яна з' явілася. Гэта вянок, які ў форме кнігі д-р Ала Петрушкевіч склала ўсім «белавежцам» і гэтым вельмі вядомым, і гэтым апошнім, як мая скромная асоба. На гэты час ёсць толькі дзве добразычлівыя асобы крытыкаў з Беларусі, якія рэгулярна пішуць рэцэнзіі на кнігі паэтаў і пісьменнікаў з Беласточчыны — а менавіта д-р Ала Петрушкевіч і Сяргей Чыгрын. Яны заўсёды пра нас памятаюць, за што вялікае ім дзякуй. Кніга д-р Алы Петрушкевіч мне вельмі хутка прачыталася таму, што напісана вельмі цікава і трапна. Аўтарка вельмі добра разумее творы «белавежцаў». Сяргей Чыгрын пытае, чаму не напісана пра Юстыну Карольку, пра Віялету Нікіцюк ці Касю Сянкевіч. Не мне ацэньваць талент маладых літаратараў таму, што як гаворыць старая прыказка — дзеці і рыбы голасу не маюць а так нас, дзяцей «Белавежы», бачаць у нашым беларускім беластоцкім агародчыку. Чаму ў агародчыку? Таму, што ў агародзе расце патрэбная агародніна, але і шмат пустазелля, якое не надта вартаснае, а пнецца высока. Пад словам пустазелле не маю на думцы маіх сяброваk, але тэмы ў нашых беластоцкіх беларускіх масмедыях, якія высысаюць здаровыя сокі ў нашай «белавежскай» агародніне — літаратуры, якой у беларускім радыё ці беларускіх газетах ёсць штораз менш месца. Пустазеллем з'яўляецца правінцыяльная палітыка агарода — рваць не зелле, якое зарастае агарод нядбайнага гаспадара, але рваць і нішчыць самую агародніну. Я не буду называць прозвішчаў, хто тым займаецца ў нас на Беласточчыне, але прывяду балючы прыклад.

1990-Я ГАДЫ
— «НІВА» НАС З'ЯДНАЛА

Трымаю перад рукою зборнік «Вобразы думак», выдадзены «Нівай» у 1999 годзе як плён IV Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы. У ім змешчаны творы 23 маладых аўтараў з Беласточчыны з беларускіх пачатковых школ ды белліцэяў і 14 дарослых аўтараў, таксама з Беласточчыны. Разам 37 таленавітых паэтаў і пісьменнікаў з Бельшчыны і Гайнаўшчыны. Наша пакаленне моладзі з 90-х гадоў было зусім іншае, чымсьці цяперашняя моладзь. Мы шмат чыталі кніг, пісалі беларускія вершы і прозу. Заахвочвалі нас да гэтага настаўнікі. Аднак «Ніва» найбольш нас з'яднала. Менавіта ў 1996 годзе «Ніва» ўпершыню сарганізавала Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. Тады дзеці, моладзь і дарослыя, у асноўным з Бельшчыны і Гайнаўшчыны, прыслалі на конкурс свае беларускія літаратурныя творы. На адным з конкурсаў пазнаў я Юстыну Карольку тады, яшчэ Грыцюк. «Ніва» нас з' яднала, «Ніва» заахвочвала нас пісаць. Большасць з іх, напрыклад, Мажэна Жменька, Жанэта Роля, Ірэна Кулік, Іаанна Масайла, Адрыян Лукша, Марк Рубашэўскі і многа іншых пісалі намнога на вышэйшым узроўні чым я. Чаму яны не ўвайшлі ў «дарослую» літаратуру, цяжка сказаць. Зараз многія з іх працуюць — хтосьці стаў юрыстам, хтосьці лекарам ці праваслаўным манахам. Цяжка сказаць, чаму яны зараз не пішуць. Самі беластоцкія дзеячы таксама заахвочвалі, запрашалі мяне ў свае хаты, дарылі кнігі. А зараз на вуліцы ў Беластоку ці Бельску, калі я іх мінаю тварам у твар, прыкідваюцца, што не ведаюць маёй асобы і мінаюць мяне як паветра. А зараз пытаю: што з імі сталася, што іх маем мы, 4-5 маладых паэтаў, (стан на 2018 год) ратаваць?!

Можа ўрэшце скончыць успамінаць тых, што стварaў «Белавежу» або даўно адрокся ад яе (аб чым сведчыць, хто быў на юбілеі і таму каму сапраўды залежыць на беларускай літаратуры), а падумаць пра будучыню. Памерлых не ўваскрэсім, пра будучыню маладых трэба задбаць.

БЕЛАРУСКІ АГАРОДЧЫК

Сябе ў агародзе з усёй нашай літаратурнай сям'і «Белавежы» я параўнаў бы да цыбулі. Усе горка плачуць, калі яе абіраюць, яна вельмі пячэ, калі яе ядзім, а з рота страшэнна смярдзіць. Але цыбуля лечыць ад прастуды, хаця коле ў вочы як горкая праўда. Аднак сама цыбуля не смакавала б добра з дадаткам іншай агародніны. І таму кніга д-р Алы Петрушкевіч «Белавежа. Постаці. Творы. Героі» гэта такі смакавіты салат, вельмі смачная страва, пададзена на юбілейны стол «Белавежы». А хто ў гэтым творчым салаце з'яўляецца цыбуляй, бульбай, капустай ці морквай, няхай кожны сабе выбярэ. У выданні д-р Алы Петрушкевіч ці ў кнігах Сяргея Чыгрына (напрыклад «Родам з Беласточчыны» і многія іншыя) мы смакуем найлепш ацэненых самымі выдатнымі крытыкамі з Беларусі. Таксама дзякую ўсім беларускім крытыкам, якія былі на юбілеі «Белавежы» ў Беластоку і гаварылі, а таксама пішуць пра маіх сяброў з «Белавежы» крытычныя даклады. Беларускай літаратуры патрэбная толькі праўда, — як сказаў класік беларускай прозы Васіль Быкаў, якога ў гэтым годзе з'явілася пасмяротна кніга «Мая вайна. Успаміны пехацінца». Прачытаўшы гэтую кнігу я зразумеў, чаму яна выйшла ў гэтым годзе, а не пры жыцці аўтара. У ёй змешчана горкая праўда, за якую я Быкава паважаў і паважаю. Праўду таксама піша другі паважаны беларускі патрыёт Юры Весялкоўскі з Вялікабрытаніі. У кнізе «Дух часу» Весялкоўскі піша пра тое, што адбывалася з беларускай меншасцю ў Англіі ў пасляваенны час, што зараз актуальнае нам, беларусам з Беласточчыны.

МАЛАДЫЯ ЗАРАЗ

Калі гляджу на пакаленне сучаснай моладзі і дзяцей на Беласточчыне дык цяжка сказаць ці яшчэ будуць маладыя беларускія пісьменнікі на Беласточчыне. Сённяшнія маладыя вучні не цікавяцца беларускай літаратурай. Усё ідзе да таго як у кнізе рускай пісьменніцы Юліі Вазнясенскай «Падарожжа Касандры або Прыгоды з макаронам» — віртуальны свет апаноўвае жыццё маладых людзей і забірае ім час на чытанне кніг, самастойнае думанне ці творчасць. Адносна маіх сяброўак-паэтэс дык яны, на маю думку, маюць яшчэ большыя дасягненні ў галіне літаратуры чымсьці я. Напрыклад Кася Сянкевіч, хаця ад мяне малодшая на дзесяць гадоў, выдала тры зборнікі паэзіі (адзін на Беларусі!) і думаю, што ёсць больш вядомая за мяне. А Юстына Каролька зараз мае важнейшыя заняткі, чым літаратура. У яе свая сям'я — муж і дзве малыя дачушкі, пра якія найчасцей клапоціцца. Аднак не было б мяне, не было б Касі, Юстыны ці Віялеты, калі б не асобы прафесара Яна Чыквіна і Галіны Тварановіч, якія нас з першых дзён вучобы на ўніверсітэце ахінулі сваімі творчымі крыламі і пакіравалі нашым літаратурным лёсам. Я нават не марыў, што буду ў «Белавежы», што «Белавежа» мне выдасць кнігі з маімі вершамі, што слаўныя члены літаб'яднання — Ян Чыквін, Галіна Тварановіч, Уладзімір Саўчук, Віктар Швед, Жэня Мартынюк, Георгій Валкавыцкі, Міхась Андрасюк, Юры Баена, Міра Лукша, Віктар Стахвюк, Алена Анішэўская, Дзмітры Шатыловіч, Васіль Петручук, Сакрат Яновіч і многія-многія іншыя — стануць мне блізкімі, што іх сустрэну ў сваім жыцці, паразмаўляю з імі, пацісну іх руку. Я нават не марыў, што калісьці буду мець аўтарскія сустрэчы на Беласточчыне ці ў Беларусі. За гэта ўсё я вельмі ўдзячны прафесару Яну Чыквіну і прафесар Галіне Тварановіч, за што ім шчыра дзякую. Гэта яны з нас, маладых людзей, стварылі літаратараў. А што далей будзе з намі дык пакажа час.

Чаго жадаю майму пакаленню? Больш чытайце, больш думайце ў адзіноце, самастойна пішыце ў «Ніву» свае роздумы, то мо пра вас іншыя напішуць.

**Юрка БУЙНЮК**

## Як нас бачаць...

Даўно я не быў на чаромхаўскім рыначку. Пры камуне кожную пятніцу і суботу я абавязкова «падпісваў спісак прысутных». Процьма народу тады збіралася. А гэта дзякуючы турыстам з-за мяжы. Шмат тавару яны прывозілі, танна прадавалі. А чаромхаўскія купцы радаваліся, пацірали рукі. Бізнес квітнеў. І адны, і другія былі задаволены. Падарожжа лічылася дастаткова зручным. Курсіравалі прамыя цягнікі Беласток — Брэст, затым Чаромха — Высока-Літоўск. Недалёка ад чыгуначнай станцыі працаваў дарожны пагранпераход Полаўцы-Пяшчатка. Катайся па ўсёй Іванаўскай. Візы былі непатрэбны, замянілі іх ваўчары — за адзіныя дзесяць злотых туды і назад. Ды і за праезд чыгункай нядорага плаціць прыходзілася. Са слязінкай у вачах успамінаюць чарамшане тадышнія гады. Што было, не вернецца, — кажуць у народзе. Так як і ў песні спяваецца: «...



З архіва аўтара: Даўней на рынaчнай пляцоўцы месца не хапала купцам

а моладасць не вернецца, не вернецца назад».

Прагрымеў цывілізацыйны прагрэс, многае перамянілася ў краіне, таксама і ў квітнеючым калісь чыгуначным цэнтры Чаромха. Заняпала чыгунка, апусцелі новазбудаваныя станцыйныя будынкі. Адміністрацыйны павільён пападае ў руіну. Гаворка ідзе аб «мадэрнізацыі» вакзала. Усё пад малаток. Астанкі, помнікі камуны трэба ліквідаваць, каб след не застаўся. Такі вось цяперашні напрамак улады.

Аднак ёсць штосьці супольнае для мінулых будняў і сучаснай рэчаіснасці. Як прыпамінаю, пры чаромхаўскім рыначку не было публічнага туалета. Калісьці на агароджы суседняй будоўлі, на даўнейшым будынку ЗДЗ была намалявана «страла» ў бок гміны з надпісам «у туалет». Мясцовым справа была вядомай, ішлі проста ў туалет за гмінай. А прыезджыя? Ды і зараз праблема застаецца адкрытай. Прачытаў я запіс на фейсбуку жыхаркі пасёлка. Справа адкрытая, публічная: адсутнасць «нужніка» ў гандлёвым цэнтры. Хто вырашае? Ці не варта прыгадаць лакальнай грамадскасці, на каго ставілі «крыжык» у час апошніх выбараў? Ды і мясцовыя абраннікі народа маглі б узяць голас у гэтай справе. Усё ж такі народ ім даверыў. Час разлічыцца перад чарговымі выбарамі.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Восень над возерам

Прыйшла восень. Стала ціха над Семяноўскім возерам. Анямеў прыгожы арыгінальны амфітэатр у Старым Двары Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета на беразе вялікага вадаёма.

Летам ладзілі тут культурна-забаўляльныя мерапрыемствы і спаборніцтвы вода-лётных машын. Прыязджала многа моладзі. Адпачывалі тут жыхары Беластока, Міхалова, Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі і іншых гарадоў. Ёсць тут палатачнае поле і шмат стаянак для аўтамабіляў. Прывозілі сюды спажывецкія прадукты, марожанае і ахаладжальныя напіткі.

Зараз па возеры плаваюць на лодках рыбаловы і добраахвотныя выратавальнікі. Турыстаў ужо няшмат. Восеньскія дні штораз карацейшыя. Вечарам і ноччу холадна. Вада ў возеры таксама пахаладзела. Адляцелі ўжо некаторыя водна-балотныя птушкі.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



зорка
для дзяцей і моладзі

Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Вяргіні — кветкі, якія дараць любоў!

Вяргіня — каралева сярод восеньскіх кветак. І што цікавае — самыя прыгожыя вяргіні ў агародзе бабулі. Садзіць і даглядаць вяргіні — вельмі далікатны занятак. Каб захаваць шматгадовую жыццяздольнасць кветак, трэба многа цярплівасці і любві. Веды пра вырошчванне кветак — гэта шматпакаленны пераказ і навука, якія атрымалі мы ад сваіх продкаў. Ды смела можам сказаць, што вяргіні — сямейныя кветкі.

У верасні і кастрычніку, калі няма замаразкаў, захапляемся харастовм кветак. Аднак варта ўжо падумаць пра будучыню. Вяргіню садзім з карэння, а ўвесь працэс пачынаецца з восені. Зараз трэба пільнаваць момант, каб выкапаць карэнне да наступлення моцных замаразкаў. Звычайна гэта адбываецца напрыканцы кастрычніка. Трэба абрэзаць секатарам сцёблы расліны, пакідаючы 15 см. Выкопваць трэба акуратна, каб не скалечыць каранёў. Перад гэтым можна зрабіць падкопы, напрыклад, віламі зрушыць зямлю. Карэнне пакінуць на 2 тыдні ў халодным месцы, а пасля змясціць у скрыні і засыпаць зямлёй (або пяском з торфам) і захоўваць у склепе. Каб карэнне не перасохла, трэба час ад часу апырскаць вадой. Ад хвароб найлепш апрацаваць іх вапнай або попелам. Пасля гэтага ёсць гарантыя, што вясной будуць яны жывыя і наступнай восенню зноў зацвітуць у нашым агародзе.



Мы невыпадкова згадалі пра «сямейнасць» кветак. Папрасіце сваіх бабуль або сваякоў карэння ўжо гэтай восенню. Пасля, калі зародзяцца і зацвітуць у вашым агародзе, будзеце доўгімі гадамі ўспамінаць дарагіх вам людзей.

На Падляшшы яшчэ вераць у тое, што самыя прыгожыя вяргіні гэта якраз тыя, якіх карэнне атрымалі мы ад любімых людзей. Яшчэ адносна нядаўна гэта быў самы адпаведны падарунак, якім абдароўваліся між сабой нашы дзяўчаты і жанчыны.

**(гак)**

**Фота Ганны Кандрацюк**

(Байкі сярэдняневечнай Арменіі)

# Малпа і рыбак

У малпы такая прывычка, каб паўтараць усё, што зробіць чалавек. Убачыла раз як рыбак закідае сетку на рыбы. Рыбак пашчыраваў і пайшоў дахаты. Саскочыла малпа з дрэва, схапіла сетку і так, як раней чалавек, паспрабавала закінуць на ваду. Але замест таго сама заpuталася ў сеці. Сядзіць малпа ў няволі, плача і дакарае сябе:

— Во табе ўдача! Навошта ты лезла ў чужую справу! Цяпер цярпі, пакутнічай, дурніца!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## Васіль Вітка

* * *

Як птушкі,
Склалі крылы
Паходныя палаткі,
І нас паклікаў верасень
У школу на заняткі.
Бывайце зноў да лета,
Азёры і бары.
Дзень добры,
Школа родная,
Настаўнікі,
Сябры!

## УВАГА КОНКУРС! № 38-18

**Пад зямлёй будуе дом
і вядзе тунэлі.
Невідушчым маўчуном
Ён жыве век цэлы.
К...**

**(М. Пазнякоў)**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 30 верасня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 34-2018: памідор. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Вікторыя Гаць, Магда Якубюк, Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Беларускі тайнапіс

Арнамент — старажытны від мастацкай творчасці нашых продкаў. Ён выяўляецца ў ткацтве, ганчарстве, вышыўцы, а ў сучасны час у біжутэрыі, а нават на муралах. Кожнаму, хто хоча хоць крышку разабрацца ва ўзорах, трэба зразумець, што кожны элемент арнаменту, гэта свайго роду тайнапіс, шыфроўка. Беларускі ўзор не проста крыжыкі, квадрацікі і птушачкі, а канкрэтнае пасланне.

Усе ўзоры прызначаны для розных нагод. Вобразы ўраджаю і ўрадлівасці, маці, роднай зямлі, святаў, песень, старажытнай міфалогіі, кахання, чалавека, сям'і і дзяржавы, веры і праўды — амаль усяго, што звязана з мінулым і сучасным жыццём беларусаў.

## Азбука беларускага арнаменту

SYMBAL BY

Агонь — Багацце — Вясна — Душа

Жыццё — Зямля — Краса — Маладосць

Насенне — Продкі — Росквіт — Сонца

Сям'я — Ураджай — Чысціня — Энергія

Галіна Дубовік

## Асенні вечар

На лістоце — кроплі,
на траве — расінкі,
падаюць з нябёсаў
дробныя дажджынкі.

То ж асенні вечар —
надыходзіць рана,
месячык схаваўся,
у нябёсах хмарна.

Паглядзі ў акенца,
месяц сінявокі!
Прагані з нябёсаў
шэрыя аблокі!

Мільгацяць хай зоры
ды на цёмным небе
будуць хай узоры:
у вырай птушкам трэба.

Выйду паглядзець я
белы шлях птушыны,
зорак мільгаценне,
месячык мой сіні...

## З народнага календара

Нашы продкі назіралі за з'явамі ў прыродзе і па іх прагназавалі будучае надвор'е.

Паназірайце і вы! Будзе відно, ці старыя метады падыходзяць да нашага часу. Апрача гэтага пабачыце, як прыемна назіраць і думаць пра родную прыроду!

* * *

Калі на працягу верасня лісты на дрэвах трымаюцца моцна — зіма не хутка прыйдзе.

* * *

Калі кот качаецца на спіне — добрае надвор'е будзе.

**(з-ка)**

## Польска-беларуская крыжаванка № 38–18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 34-2018:**
Бал, дрон, мысы, мода, смелы, дыямент, тата, арэна, акно. Бамбіза, ласы, мята, смех, лета, рынак, ногі, но.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк, Магда Якубюк, Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Odlot ptaków | | No | Sport | Pogranicze | | | | | |
| | | | Zaufanie | | Płaca / Miarka | | Ar | | |
| | Wąż | Dama | | | | | Aster | Trzy | |
| | Kometa | | | | | | | | Żyto |
| | | Wrzosy / Wesz | | | | | | Róg | |
| | As / Wieża | | | | | Trzy | | | |
| Mors / Cisza | | | | | | Usta | | | |
| | | | Odwaga | | | | | | |

# Між сяброў — дарагія „белавежцы"

У асабістай бібліятэцы асабліва дарагія кнігі з аўтографамі. Як захаваць іх, каб не згубіліся, бо, на жаль, мала хто мае наступнікаў, крэўнікаў, якім цікава справа нашага жыцця. Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч вырашыў сабраць гэтыя знакі аўтарскай прысутнасці ў ягонай бібліятэцы пад адной вокладкай. Падрыхтаваў і выдаў кнігу „Аўтографы — разам", дзе адфатаграфаваны 577 тытульных лістоў падараваных яму выданняў за немалы час: 1951-2018 гады. Чым з'яўляюцца для А. М. Пяткевіча аўтографы аўтараў? Пра гэта ён піша ў прадмове: „Надпіс на кнізе, перададзенай табе, — не толькі след чалавечай рукі. Скупыя словы дарчага надпісу гавораць многае пра асобу, якая зрабіла ласку гэтым дарункам і выказала з такой нагоды штосьці значнае на твой адрас". Прадмова да гэтай кнігі — праўдзівы мастацкі твор, напісаны душою.

Шмат скажа чытачу экслібрыс Аляксея Пяткевіча, створаны Вячкам Целешам. Тут адлюстраваны асноўныя знакі яго жыцця: корпус універсітэта, кнігі, сонца маладзіковае — сімвал ТБМ, помнік Янку Купалу і настольны перакідны краязнаўчы каляндар, які ўжо шмат гадоў рыхтуе наш шаноўны краязнаўца.

Большасць подпісаў на тытулах кніг стандартныя: шаноўнаму — ад аўтара. А. М. Пяткевіч зважае і на гэта: „Выказванне тут можа несці і досыць трывіяльны, дзяжурны змест. Так бывае тады, калі асоба не блізкая табе". Але і такія аўтографы шмат кажуць чытачу, сведчаць пра чалавечыя стасункі. Бо А. М. Пяткевіч і сапраўды шаноўны, паважаны, дарагі ўсім (мяркую, не памыляюся), хто ведае гэтага чалавека. Самы вядомы даследчык літаратуры на Гарадзеншчыне, кандыдат філалогіі, прафесар, руплівы краязнаўца. Надзвычай далікатны, карэктны, прыстойны чалавек. Скупыя, „дзяжурныя" надпісы ён таксама шануе, бо „і такі тэкст аўтографа дарагі для адрасата, бо ён, аўтограф, заўсёды — ганар, выказаны табе. І яшчэ гэта знак памяці пра чалавека, якую ён пакінуў сваім запісам і якую трэба берагчы. Так ці інакш, аўтограф — часцінка душы чалавека, які запісаўся ў гэтай кнізе. Гэта часцінка асабліва вартасная, калі чалавека ўжо няма на гэтым свеце. І мы сустракаемся з ім, адгортваючы тытул кнігі".

Адгорнем жа і мы першую старонку гэтага выдання. Чысты ліст. Уверсе — прысвячэнне. Вельмі кранальнае: „Светлай памяці Ігара Жука, доктара філалагічных навук, майго лепшага сябра". Кніга выйшла амаль праз год, як не стала Ігара Васільевіча Жука, які і сапраўды быў для Аляксея Міхайлавіча лепшым сябрам. Згадваючы самых таленавітых выкладчыкаў філалагічнага факультэта, іх заўсёды ставяць побач. Бо так і было: разам працавалі на кафедры беларускай літаратуры, якое ўжо няма ў нашай вну, стварылі факультэт беларускай філалогіі і культуры, які ўжо даўно знішчаны. Гэта адгукнулася вялікім болем для абодвух. Разам адраджалі Купалаўскія чытанні, патрабуючы, каб яны былі сапраўды Купалаўскімі, а не разнатэм'ем, разам працавалі над тэмай „Матыўная прастора беларускай літаратуры". Ды і жылі побач, па вуліцы Горкага, часта сустракаліся не толькі на працы. Усе выданні І. В. Жука ў свой час былі падараваны старэйшаму калегу. У кнізе сустракаем аўтографы, у якіх выказана глыбокая пашана і ўдзячнасць. Так, на тытуле літаратуразнаўчых эцюдаў „Сустрэчны рух" чытаем: „Дарагому Аляксею Міхайлавічу, чыя духоўная моц і кранальнае бацькоўскае апякунства дазваляе трымацца ў няпэўнасці хісткага часу". Яны былі праўдзівай радзінай па духу. Таму і дзякуе І. В. Жук, падпісваючы дапаможнік „Беларуская літаратуразнаўчая школа", найперш за духоўную падтрымку. Ігар Жук валодаў словам віртуозна. Але, як сапраўдны майстра, ведаў, што мова часта нямее, не стае ў яе моцы, каб перадаць самыя важныя пачуцці. Пра тое чытаем на аўтарэфераце доктарскай дысертацыі „Празаічны тэкст: Дынаміка рытмавага існавання": „Дарагому Аляксею Міхайлавічу, адчуваючы брак патрэбных слоў, каб выказаць усю глыбіню павагі да Вас, захапленне і любаванне Вамі. Усім, што ў мяне ёсць станоўчага, я Вам абавязаны найпершым чынам". Гэта апошні аўтограф сябра. Пра ягоны зыход Аляксей Міхайлавіч сказаў нейк: „Паспяшаўся, пайшоў, парушыўшы чаргу". Ды ніхто з нас не ведае, калі тая чарга надыдзе.


фота Міколы Тараныды
Аляксей Пяткевіч і аўтарка на сустрэчы з Уладзімірам Арловым (справа)

Наогул, у кнізе багата аўтографаў гарадзенцаў, калег па працы ва ўніверсітэце, на ніве культурнай, літаратурнай. Міла сустрэць між надпісаў да болю знаёмы каліграфічны почырк прафесара Івана Якаўлевіча Лепешава, нашага дарагога настаўніка, калегі. Ён ніколі не быў шматслоўным, такія ж і аўтографы. Але заўсёды выказваў тое, што думаў, што адчуваў, з усёй праўдзівасцю, шчырасцю, „з найлепшымі пачуццямі".

На розных выданнях пакінулі свае надпісы Т. Сцяшковіч, М. Янкоўскі, А. Цыхун, К. Лецка, Т. Тамашэвіч, М. Бяспамятных, П. Сцяцко, С. Мусіенка, М. Даніловіч і Н. Памецька, Я. Трацяк і інш. Гэта тое асяроддзе аднадумцаў, асоб паважанага веку, з кім побач працаваў многія гады, і маладзейшых, каго вучыў не толькі ведаць, разумець літаратуру, але заставацца чалавекам прыстойным, годным. Многіх ужо няма, але яны засталіся ў духоўнай прасторы нашага горада. І назаўсёды застануцца разам у кнізе „Аўтографы — разам". І хоць Радзіма аўтара далёка ад Гародні, ля вытокаў Нёмана, але столькі гэтаму краю аддадзена, што даўно стаў А. М. Пяткевіч гарадзенцам. В. Адамчык на кнізе „Год нулявы" так пазначае геаграфію жыццёвых сцяжын: „Мінчуку, ці нават слуцаку, які стаў нават патомным гарадзенцам...". А. Лойка выказвае зайздрасць, мо крыху з гумарам: „Дарагому Аляксею Пяткевічу — гродзенцу, якому я па-добраму зайздрошчу з гэтай нагоды".

Многія аўтографы выступаюць сведчаннем цікавых сустрэч. Выказваецца ўдзячнасць прафесару Пяткевічу за запрашэнне ў студэнцкую аўдыторыю, згадваюцца літаратурныя імпрэзы, навуковыя канферэнцыі, якія адбываліся ў многіх гарадах. Пра гэта напісалі А. Вярцінскі, А. Зарыцкі, А. Грачанікаў, А. Пысін, А. Гардзіцкі, Г. Бураўкін, М. Стральцоў, Я. Усікаў, У. Конан, В. Шымук, В. Швед, В. Жуковіч, А.Туровіч і інш.

Асобна вылучым аўтографы Зоські Верас і Ларысы Геніюш, бо яны — праўдзівая каштоўнасць для тых, хто разумее веліч гэтых асоб, творцаў, грамадскіх дзячак. Слова, пакінутае рукою жанчыны-легенды. З абедзвюма А. М. Пяткевіч шчыра сябраваў, доўгі час перапісваўся, неадноўчы сустракаўся. На адзінай кнізе „Каласкі" Зоські Верас яе мілым птушыным почыркам выведзена: „Дарагому Аляксею Міхайлавічу і Яго Сям'і на памятку знаёмства, сустрэчаў". Толькі выйшла кніга Ларысы Геніюш, аўтарка адразу ж падпісвае асобам, якія заўсёды падтрымлівалі і засталіся вернымі сябрамі да яе апошняга дня: „Самым верным і маяму сэрцу дарагім Беларусам — сямейцы Пяткевічаў".

Вось жа, пра сяброўства. Аляксей Міхайлавіч умее сябраваць. Вельмі многія ў аўтографах пішуць пра гэта. Тыя, што заставаліся сябрамі праз усё жыццё, чые надпісы так і свецяцца прыязнасцю. Гэта А. Лойка, Н. Гілевіч, В. Быкаў, А. Карпюк, С. Грахоўскі, А. Мальдзіс, М. Аўрамчык, П. Місько, У. Дамашэвіч, А. Шыдлоўскі і інш. Цудоўная сябрына! Недарэмна ж А. М. Пяткевіч прызнаецца: „Асабліва даражу аўтографамі дарагіх мне сяброў, з якімі давялося доўга крочыць па жыцці, хаця з многімі і на адлегласці ў прасторы... Ганаруся шматлікімі аўтографамі паэтаў майго пакалення, з якімі былі злучаны дзесяцігоддзямі цёплых сустрэч і душэўнай блізкасці". А між сяброў і „белавежцы". Знакаміты пісьменнік з Польшчы Сакрат Яновіч, падпісваючы „Зборнік сцэнічных твораў", выдадзены сумесна з Юркам Геніюшам, выказвае і шчырыя словы сяброўства, і згадку пра многія крытычныя артыкулы, калі з-пад пяра гарадзенскага даследчыка паўстала ўжо праўдзівая „яновічаніяна": „Аляксею Пяткевічу, сябру майму, у дапаўненне ягонай яновічаніяны". Неадночы даводзіцца чуць пытанне: „Як успрымаць літаратуру беларускіх пісьменнікаў Польшчы?" Розныя адказы гучаць з вуснаў розных даследчыкаў, самix пісьменнікаў, сяброў „Белавежы". У аўтографе на кнізе „Сцяна", перакладзенай на польскую мову Ежы Плютовічам, Сакрат Яновіч падае і сваё разуменне гэтага феномена: „Аляксею Пяткевічу за добрае сэрца да польскага — ПНР, дзіцяняці беларускай літаратуры", тым самым падкрэсліваючы роднасць „Белавежы" з літаратурай Беларусі.

Толькі блізкаму сябру можна даверыць таямніцу. А таямніцу цэлай даліны лёсу — толькі абранным. Відаць, такім і быў для Сакрата Яновіча гарадзенскі літаратуразнаўца. Пра тое сведчыць надпіс на кнізе „Dolina pełna losu": „Даліну свайго лёсу дорыць Аляксею Сакрат: у кожнага свая даліна". 23.11.1994. Відаць, гэта быў памятны дзень сустрэчы сяброў. Пра тое сведчыць прыпіска: „У Гародні, у гасцінным доме".

Наогул, А. М. Пяткевіч заўсёды плённа супрацоўнічаў з пісьменнікамі Польшчы, знаёміў з іх творчасцю беларускага чытача. Сустракаем шматлікія аўтографы белавежцаў, у якіх выказваецца шчырая ўдзячнасць за ўвагу да напісанага імі. Старэйшы паэт „Белавежы" Віктар Швед на тытуле „Выбраных вершаў" напісаў: „Дарагому другу Аляксею Пяткевічу з сардэчнай падзякай за прыгожую ацэнку маёй паэтычнай творчасці". Аўтографаў гэтага аўтара, у якіх заўсёдная прыязнасць, багата ў кнізе. Апошні на тытуле кнігі „З Мора ў горад", якую падпісаў у дзень, калі ў Гародні адзначалі 85-годдзе з дня нараджэння прафесара Пяткевіча. Аўтар нават зрыфмаваў подпіс:

Дарагому Пяткевічу Аляксею
У Дзень Ягонага Юбілею,
Захавальніку нашай Айчыны
Прысвячаю свае ўспаміны.

А знаная літаратуразнаўца Тэрэза Занеўская, якая шмат зрабіла дзеля папулярызацыі беларускай літаратуры ў Польшчы, таксама выказвае шчырыя словы ўдзячнасці, сведчання, што і для яе працы гарадзенскі калега таксама паспрыяў: „Спадару Прафесару Аляксею Пяткевічу з найлепшымі пажаданнямі і падзякай за дапамогу".

Згадкай пра сустрэчу восенню 1998 года ў багатым на таленты Бельску засталася кніга Надзеі Артымовіч „Łagodny czas". Бельская паэтка таксама з сябрыны Аляксея Міхайлавіча, пра што сведчыць пакінуты надпіс: „Майму Сябру Аляксею Пяткевічу — сардэчна — на доўгую памяць". Адметны аўтограф пакінуў Міхась Шаховіч, які дробным почыркам, паэтычна пазначае жанр свае кнігі „Святая ноч": „З вялікай радасцю прыношу ў дар свой начны маналог". Кніга Юркі Геніюша „З маёй званіцы" выйшла ў Беластоку праз восем гадоў пасля зыходу аўтара. Падпісала яе А. М. Пяткевічу жонка Валянціна, таксама пазначыўшы аўтограф знакам сяброўства: „Сябру А. Пяткевічу на памятку аб Юрцы Г.".

Ёсць тут цікавы аўтограф — сугучча імён маладых творцаў з Беласточчыны: Юрка Буйнюк, Люцына Данілюк, Агнешка Галімска, Ірэна Кулік, Івона Марціновіч, Юстына餐 Каролька, Ганна Яканюк, Валодзя Саўчук і інш. Пакінуты гэты надпіс на зборніку „Зноў чуеш словы", з падтытулам „Плён III Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы". І няхай не ўсе ўдзельнікі таго конкурсу засталіся ў літаратурнай кагорце, усё ж іх словы былі прамоўленыя, напісаныя, прачытаныя. А значыць, след пакінулі.

Ірына Баравік — імя напаўзабытае, а ў кнізе Аляксея Міхайлавіча застанецца, бо сардэчна вітала яго ў Беластоку ў 1981 годзе сваёй кнігай „Супраць ветру". У тыя часы ён часта бываў у Польшчы, на Беласточчыне, такой блізкай гарадзенцам. І ўсё гэта былі цікавыя імпрэзы, канферэнцыі, літаратурныя вечарыны. Сустрэчы з сябрамі, радзінай па духу.

Зрэшты, першыя кнігі з аўтографамі таксама ад сяброў. Самая першая ад аднакурснікаў у дзень нараджэння. Раман Г. Мядынскага „Мар'я". Падумалася, чаму менавіта гэтая кніга? Вядомы ў тым часе твор. За яго аўтар атрымаў Сталінскую прэмію. Аляксей Міхайлавіч прызнаўся, што пазней прачытаў усёткі гэтую кнігу. Нечытэльная. Подзвіг здзейсніў, не адкінуўшы, закончыўшы. Галоўная гераіня — старшыня калгаса ў гады вайны... А мне падаецца, выбраны раман быў невыпадкова. З далікатным намёкам, бо імя гераіні тое ж, што і прыгожай аднакурсніцы, каханне да якое ўспыхне неўзабаве, каб доўжыцца ўсё жыццё.

Стала б часу і магчымасці, каб тыя згадкі (калі, дзе, з якое нагоды, у часе якое сустрэчы) з'явіліся аўтографы ды былі змешчаны побач, на старонках новае кнігі. Якое б гэта было цікавае выданне! Але і зараз маем вельмі важкую, ажыццёўленую А. М. Пяткевічам вялікую задуму-працу-кнігу: „А каб сабраць усіх разам, хто пакідаў мне памятку на тытулах кніг? Гэта ж будзе вялікая і дужая грамада, што не прападзе, не паддасца забыццю, знішчэнню. Такое рашэнне з'явілася нечакана і падалося вельмі слушным. Яны ж і мяне такой кагортай моцна падтрымаюць у маім цяперашнім старэча-самотным лёсе. Дык падтрымуемся, шаноўныя пабрацімы і паплечнікі па беларускай справе! Пачуемся камфортна пад адной вокладкай гэтага выдання, нібы ў адзіным доме — правобразе таго вялікага дома, пра які самааддана клапаціліся тыя, хто ўжо не пакіне на тытуле свайго запаветнага слова, і тыя, хто сёння натхнёна працуе, піша і марыць".

Альжбета КЕДА

*Да юбілею 60-годдзя «Белавежы»* БЕЛАВЕЖА

# Вершы Жэні Мартынюк



***

— надзень мне каханы
сукенку
вытканую тваімі марамі

— звяжы у вузел
нашыя рукі
на супольную будучыню

— расчыні шырока
дзверы нашай душы
у веру, надзею, любоў

— падары мне каханы
сябе.

***

Непаваротлівы час
вядзе ўспамінамі у мінулае,
боль сцякае слязьмі у вачах.

Тая адзіная хвіліна
зачаравала мяне
на ўсё жыццё.

Бягучы ўспамінамі
да маладосці
паддаюся ёй
пад цяжарам
салодкага болю.

***

Бурлівы ручаёчак
бурліць,
веснавой песняй
шуміць.
Праснулася матуля зямелька,
адгукаецца рэхатам жаб,
птушынай сімфоніяй.

Святкуй святло,
святкуй жыццё
падараванае Усявышнім!

А ў адкрытым сэрцы
мяняецца свет
і ўзыходзяць парасткі надзеі.

***

Сэрца
сэрцам
жыве,
жыццядайнай
крыніцай
б'е,
адно
другое
кахае,
вулканічным
уздыханнем
палае.
Сэрца за сэрца памірае.
У чым філасофія
іх існавання?

***

Калі кахаць
то маўчаннем вачэй,
трапятаннем сэрц
тужлівым...
Калі верыць
то з разбуджанай надзеяй,
неспакуслівым падманам.
Калі чакаць
то з ап'янеласці ад шчасця
на вечнасць
пакуль не станем
адным целам.

## Сон

Мітусіцца ноч
ахіліць усю зямлю
і пад зорным небам
запрасіць да сну,
аднімае стому,
дарыць спакой,
блажэнны сон
плыве ракой.
Сярод нябеснай цішыні
плывем у сне
як караблі.

***

Пад зорыстым
плашчом ночы
у таямніцы
перад светам
мы стаялі,
месяц усміхаўся
з-за хмар,
цвыркуны
вяселле нам
ігралі.
Букетам прызнанняў
мяне ты абсыпаў
у тым непаўторным
імгненні
што завецца
раем.

***

Іду
плыву
лячу.
Вырвалася багіні ночы
са сну.
У калія́нах дзён
лаўлю непрыкметную
хвіліну
што кожным
календарным лістком
запісваецца
на маіх сівых валасах
балючым праміна́ннем.
Хаця б адзін дзянёк
павярнуць назад!
Уваскрэсні мінулае!
Перада мною
безліч дарог,
за мною
пожня.

***

Пішуць паэты вершы,
хто горшы,
хто лепшы,
пішуць летам і зімой
натхнёнай душой.
Думкі прадуць як кудзелю,
пішуць сэрцам
днём надзённым, нядзеляй.
Вірующ у бязмежнай прасторы
пакланіўшыся
сонцу і зорам,
крылатым ангелам
спадарожнікам палёту.
Зямны сусвет
паэтаў стварае.

***

Як смакаваць здраду
і не чуць болю
— ступаць па ружах
цернямі не калечачы ног
— гаварыць маўчаннем
знаходзячы словы
— узяць тое
што немагчыма браць
— як плакаць
без слёз,
выпрасіць старасці
недадзенае маладосцю.

***

Кручу жыцця рулём,
калі памылкова,
калі ад шчасця
хлопаю у далоні.

Каб толькі
не выпасці мне
з каляіны.

А нада мною
проста у вочы
мне хіхоча
наканаваны Усявышнім
мой лёс.

# Засталіся адно ўспаміны (42)

З Дыдуль у Дубяжына як рукою падаць. З ПГР праз Градалі да бельскай шашы пралягае шыкарная асфальтоўка. На скрыжаванні дарог перад Алекшамі ў Дубяжын у пачатках шасцідзясятых гадоў, калі я пачынаў ездзіць з кінаперасоўкай, была пясчаная дарога. Зараз за могільнікам, ад Дубяжына ў напрамку Алекшаў, трэба было перададолець каля 150-метровы прамежак грузкай дарогі. Вясною ці восенню цяжка было праехаць фурай, не кажучы пра машыну. У гразі можна было ўтапіцца. Затым многія аб'язджалі топель гаспадарскімі пасяўнымі палямі. Крыўдна было ўладальніку ўчастка, бо пасевы руйнавалі, але іншага выхаду не было. Падобны адрэзак грузкай дарогі пралягаў ад чыгуначнага прыпынку па скрыжаванне дарог Падбелле — Мокрае, якая праходзіла побач царквы. Такімі дарожкамі трэба было дабірацца ў Дубяжын. А ў сяле быў ненайлепшай якасці брук.

Дубяжын — вёска вялікая, багатая. Зямля тут ураджайная, давала багаты плён. Асноўнай крыніцай даходу была сельская гаспадарка і выраб саламяных мат. Амаль у кожнай хаце рамяством тым займаліся ўсёй сям'ёю. Мужчыны і дзеці чысцілі салому, а гаспадыні на кроснах ткалі простыя і ўзорыстыя цыноўкі. Прыбыткі ад таго быў вялікі. Большасць рамеснікаў была членамі кааператыва «Цэпэлія», які змяшчаўся ў Беластоку пры вуліцы Астроўскага. У Бельску-Падляшскім працаваў пункт прыёму саламяных вырабаў. Кіраўніком склада быў Аляксандр Сахарчук, кладаўшчыком — Стась Весялоўскі, а спецыялістам па якасці — Ян Камар з Кошак. Члены кааператыва плацілі гадавыя ўзносы, удзельнічалі ў агульных сходах, выбіраліся раднымі. Такі гонар у Дубяжыне выпаў на долю Гандзі Федзінай. Мела яна пашану ў аднавяскоўцаў і блат у начальнікаў. Паколькі членам кааператыва назначаліся месячныя нормы пастаўкі мат, раднай закон не абавязваў. Колькі вырабіла, столькі прадала. Дубяжынцы пастаўлялі малако ў суседняе сяло Мокрае. Пастаўшчыкоў шмат было. Штодзень грузілі малако на дзве падводы і адпраўляліся на пункт скупкі ў Мокрае. Праблемай для лакальнага насельніцтва былі брак электратоку, святліцы і школьнага будынка. Сямікласная школа працавала ў невялічкім драўляным будыначку. Навучанне праводзілася пазменна. Кіраўніком школы быў старэнькі настаўнік з Градалёў спадар Шурбак (імя не запамяталася). З настаўнікаў запамятаў яшчэ паню Маліноўскую. І тут я знайшоў жыццёвую прыстань. Ажаніўся.

(працяг будзе)

❖Уладзімір СІДАРУК

# Гэта ўжо гісторыя...

Зараз мала хто памятае, як жылося моладзі ў Кузаве пяцьдзясят гадоў таму. Паспрабую затым успомніць мінулыя будні на аснове занатовак з дамашняга архіва. Тады ў Кузаве было шмат моладзі, якая гуртавалася ў свае «кампаніі»: старэйшыя, сярэднія і падлеткі. У першай была кавалерка і дзяўчаты гатовыя да замужжа. Яны арганізавалі забавы, дзявочыя вячоркі, якія зводзіліся да рознага віду гульняў, пакудзелля ці рукадзельных работ. Памятаю, што па нядзелях і ў дні царкоўных фэстаў збіралася кампанія «старэйшых» (1928-1933 гадоў нараджэння) у сястрыцы Гені. Бацька наш, вярнуўшыся з канцлагераў, прывёз з Аўстрыі грамафон з пласцінкамі. «Пацiфон», як мы яго называлі, быў на спружыну і заводзіўся ручкай. Калі спружына расходзілася, тады ручкай падкручвалі. А пласцінкі былі «чарапяныя», хутка ламаліся. У асноўным танцавалі факстроты, бо такія адно былі пласцінкі. У нашым доме было заўжды весела і гаманліва. А дзяўчаты і хлопцы хадзілі парамі, як нарачоныя. Памятаю, як на прадзільным вячорку Сяржа Рэпка падпаліў нарачонай кудзелю. Быццам жартам падсунуў папяросу пад льняную нітку і тут жа ўся кудзеля ўспыхнула, быццам порах, толькі попел застаўся. Перапалохаліся ўсе. Неўзабаве Сяржа з Надзяй пажаніліся. Няма іх ужо ў жывых. «Сярэдняя» кампанія гуртавала моладзь 1934-1937 гадоў нараджэння. Гэта была апора старэйшых. Кавалерка, памятаю, найбольш збіралася ў Сяржы Карпавага. Там гулялі ў карты, арганізавалі запусты. Найбольш людной лічылася кампанія «падлеткаў» (1938-1942 гадоў нараджэння). Гэтыя былі важакамі культурнай дзейнасці ў святліцы, гуртаваліся ў маладзёжных арганізацыях: Саюзе вясковай моладзі, Лізе сяброў салдат і Гуртку вясковых гаспадынь. У святліцы працаваў клуб «Рух» , які падпарадкаваны быў Бельскай, затым Гайнаўскай дэлегатуры «Руху». Патранат над клубам трымала моладзь СВМ. Ліга сяброў салдат штогод арганізавала Касцюшкаўскія паходы, спартыўныя гульні. Апекуном з павета быў Анджэй Секаноўскі з Барысаўкі — стары кавалер, як мы яго называлі. Пры святліцы працаваў драмгуртон. Памятаю, што 17 красавіка 1960 года, на Вялікдзень, паказвалі польскую пастаноўку «Огень на мне». У ролю артыстаў замяніліся Толік Фралоў, Віктар Місюк, Міхась Маркевіч і ніжэйпадпісаны. Зараз маіх калег няма. Даўно адышлі ў вечны спачын (усе трох былі 1941 г. н.). Вайсковыя мундзіры пазычылі на заставе Войск аховы пагранічча ў Чаромсе, а вінтоўкі ў Гайнаўскім праўленні Лігі сяброў салдат. У 14 гадзін кузаўскія самадзейнікі выступілі перад школьнай моладдзю, а ўвечары — перад дарослымі. Пасля адбылася агульная забава. Доўга гаварылі аднавяскоўцы аб мерапрыемстве: «Вось, гэта была забава. Ніводнага п'янага. Ніводнага ў шапцы і з папяросай у зубах». А Гуртоk вясковых гаспадынь арганізаваў кулінарныя курсы — вучыў жанчын рыхтаваць мясныя вырабы, варэнне і пячэнне, вучыў таксама кравецкай справе... Але гэта ўжо іншая гісторыя.

❖Уладзімір СІДАРУК




У папярэднім нумары „Ніва” пісала пра стварэнне літаратурны часопіс „Мінкульт”. Ён можа з'явіцца ў папяровым выглядзе, калі ініцыятары збяруць на яго патрэбную суму грошай на краўдфандынгавай платформе ў інтэрнэце. Заснавальнікі таго выдання, хоць і стварылі сайт, але лічаць, што часопіс мусіць быць папяровым. Таму на іх сайце можна толькі пабачыць анонсы планаваных да друку твораў.

Але пакуль нехта толькі збірае грошы на папяровае выданне, іншыя даволі паспяхова робяць сваю працу ў інтэрнэце. Напрыклад, віртуальны часопіс „Літраж”, які месяцца ў сусветнай павуціне па адрасе **https://litrazh.org**.

Праект вэб-часопіса ўзнік у 2008 годзе. Але ў інтэрнэце яго з'яўленне датуецца 2013 годам. А зусім нядаўна, у ліпені 2018 года ягоная старонка ў інтэрнэце была абноўлена. З гэтай нагоды рэдакцыя нават выдала прэс-рэліз, які быў размешчаны на розных культурніцкіх сайтах. „Гэта вельмі важная для нас вяха, доўгачаканы падарунак сабе і чытачам. Сучаснае творчае выказванне мусіць мець адпаведную тэхнічную падтрымку, таму цяпер у нас ёсць мабільная версія, канал у Тэлеграме і магчымасць каментавання праз фэйсбук. Нязменнымі застаюцца рэдакцыя і яе палітыка: свабода творчай думкі, дэцэнтралізацыя літпрацэса і плюралізм меркаванняў”, — казаў адзін са стваральнікаў праекта Макс Шчур.

Сайт вэб-часопіса выглядае даволі прывабна і змястоўна. Няма залішніх аздабленняў — толькі тэкст, партрэты літаратараў, магчымы малюнак да твора. Пад загалоўкам-назвай сайта месяцца выйсці на сем рубрык — „Галоўная”, „Навіны”, „Паэзія”, „Проза”, „Пераклады”, „Іншае” і „Аўтары”. Прычым галоўная старонка змяшчае анонсы тэкстаў амаль усіх рубрык, за выключэннем той, дзе распавядаецца пра творцаў.

З правага боку месяцца заклік „Падтрымай Літраж, зрабі свой унёсак у сучасную літаратуру”. „Дзесяць гадоў вэб-часопіс ствараўся на валанцёрскіх пачатках, але цяпер з'явілася магчымасць рабіць разавыя ці рэгулярныя ахвяраванні на платформе Patreon, якая падтрымлівае любыя тыпы банкаўскіх картак. Нязменныя патрэбамі рэсурса застаюцца хостынг і тэхнічная падтрымка, для якіх важны кожны чытацкі рубель”, — тлумачыцца ў прэс-рэлізе, выдадзеным з нагоды абнаўлення сайта.

Нягледзячы на тое, што „Літраж” — часопіс віртуальны, ён напоўніцу жыве рэальным жыццём, бо яго рэдакцыя аказвае інфармацыйную падтрымку чытанням беларускай літаратуры. „Акрамя анлайну, часопіс забяспечвае інфармацыйную падтрымку жывым акцыям у рамках праекту Belorution@Mist — чытанням беларускай літаратуры ў Празе, пераважна з удзелам аўтараў. Сёлета ў кавярні Mist ужо выступілі Вальжына Морт, Дзмітры Плакс, Дзмітры Дзмітрыеў, былі прэзентаваныя пераклады Эміліі Дыкінсан на беларускую мову і Максіма Багдановіча на чэшскую, адбылася адмысловая вечарына да стагоддзя БНР. Арганізатары абяцаюць папоўніць сузор'е імён на пляцоўцы ўжо ў верасні. Сачыце за абвесткамі”, — распавядаюць пра сваю дзейнасць натхняльнікі справы віртуальнай літаратуры.

Варта прызнаць, што ўладальнікі гэтага літаратурнага сайта дабіліся многага, бо ў цяперашніх умовах так доўга трымацца на адным энтузіязме могуць людзі, вельмі апантаныя сваёй справай.

❖Аляксандр ЯКІМЮК




# 120 гадоў з дня нараджэння
# Паўла Крынчыка

Беларускі грамадска-культурны дзеяч, актывіст Таварыства беларускай школы Павал Крынчык нарадзіўся 17 верасня 1898 г. у вёсцы Едначы (Слонімскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і. У 1910 г. сям'я перабралася на хутар ля вёскі Вострава (Зэльвенскі раён). У 1910-1912 гг. вучыўся ў народнай вучэльні ў вёсцы Клімавічы (Зэльвенскі раён). У 1912-1915 гг. Крынчык адукоўваўся ў Слонімскай вышэйшай пачатковай вучэльні. У час Першай сусветнай вайны рускія казакі выгналі сям'ю ў бежанства. Крынчык выехалі ажно ў горад Екацярынаслаў (Расія). Там Павал працягваў вучобу ў вышэйшай пачатковай вучэльні (1915-1917). З 1917 г. вучыўся на будаўнічым аддзяленні Екацярынаслаўскага палітэхнікума шляхоў зносін. Скончыў тэхнікум у 1921 г. Неўзабаве сям'я вярнулася ў родныя мясціны, дзе працавала на гаспадарцы.

У 1920-я гг. Павал Крынчык уключыўся ў беларускі рух, актыўны ўдзельнік Таварыства беларускай школы. З 1927 г. — віцэстаршыня Слонімскай акруговай управы ТБШ, з траўня 1929 г. — сябра Галоўнай управы ТБШ. У лютым 1929 г. Павал Крынчык абраны дэпутатам польскага Сейма па спісе беларускіх арганізацый. У Варшаве атрымаў пасольскі мандат, які гарантаваў яму недатыкальнасць. Адзін з арганізатараў і сябра Галоўнага сакратарыята клуба „Змаганне”. Уваходзіў у заходнебеларускі аргкамітэт па падрыхтоўцы Еўрапейскага сялянскага кангрэса ў Берліне. Быў дэлегатам гэтага кангрэса.

Палымяны голас пасла Крынчыка гучаў на шматлюдных мітынгах у Дзярэчыне, Ашмянах, Вільні, Воранаве, Смаргоні, Карэлічах, іншых гарадах і мястэчках. Нягледзячы на дэпутацкую недатыкальнасць, Крынчыка часта абражалі, а часам і білі на гэтых мітынгах паліцыянты і шпікі. А летам 1929 г. у Карэлічах у яго нават выстралілі з пісталета. Куля трапіла ў галаву, Крынчыка хутка паклалі на воз і павезлі да доктара. Лекар дастаў кулю і жыццё маладога пасла было ўратаванае. Крынчыка з забінтаванай галавой завезлі на чыгуначную станцыю Навальня, а адтуль пераправілі ў Вільню.

У час дадатковых выбараў у Сейм, якія праходзілі вясной 1930 г. у Лідскай выбарчай акрузе Крынчык разам з некаторымі іншымі паплечнікамі зноў былі абраныя па спісе кандыдатаў „Змагання”. Але ўжо ў жніўні 1930 г. Крынчык дома арыштаваны ўладамі Польшчы. Разам з іншымі сябрамі пасольскага клуба „Змаганне” быў перавезены ў Вільню, дзе ў пачатку 1931 г. засуджаны да 8 гадоў турмы. З верасня 1932 г. у выніку абмену палітычнымі вязнямі апынуўся ў Савецкім Саюзе. Працаваў на гаспадарчай рабоце, таксама лектарам.

Паўла Крынчыка арыштавалі 26 лістапада 1935 г. 1 красавіка 1936 г. „тройкай” НКВД з фармулёўкай „за сувязь з разведкай буржуазнай Польшчы” засуджаны да 5 гадоў савецкага канцлагера. Неўзабаве этапаваны ў адзін з Калымскіх лагераў — Эльген (Магаданская вобласць).

Толькі ў 1956 г. Павал Крынчык вярнуўся на радзіму, працаваў на гаспадарцы. Быў жанаты з Аленай Лябецкай, вядомай дзеячкай ТБШ, якая таксама перажыла арышт і савецкі канцлагер. Сям'я пераехала ў Слонім, дзе Крынчык працаваў вартаўніком. Афіцыйна яго рэабілітавалі ў сакавіку 1956 г.

Памёр Павал Крынчык 22 верасня 1975 г. у Слоніме, дзе і пахаваны. Яшчэ пры жыцці ён надрукаваў успаміны, у якіх расказаў пра падрыхтоўку еўрапейскага сялянскага кангрэса ў Берліне.

❖Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# TEATRALNY FESTYVAL ODE
## 26.IX - 5.X.2018

**PROGRAM**

**26 września (środa)**
10:00 i 12:00 „Ajciec Kanstancin Bajko" Teatr z Muzeum Białoruskiego w Hajnówce, miejsce: Teatr Dramatyczny im. A. Węgierki w Białymstoku

**27 września (czwartek)**
18:00 „Ajciec Kanstancin Bajko" Teatr z Muzeum Białoruskiego w Hajnówce, miejsce: Teatr Dramatyczny im. A. Węgierki w Białymstoku

**28 września (piątek)**
10:00 i 12:00 „Vovčok Movčok" Teatr Czrevo, miejsce: Muzeum i Ośrodek Kultury Białoruskiej w Hajnówce

**29 września (sobota)**
18:00 „Pozory" Teatr Czrevo/Laboratory Figures Oskar Schlemmer, miejsce: Uniwersyteckie Centrum Kultury w Białymstoku

**30 września (niedziela)**
18:00 „Pozory" Teatr Czrevo/Laboratory Figures Oskar Schlemmer, miejsce: Uniwersyteckie Centrum Kultury w Białymstoku

18:00 „Ki, moj miły Ki" Teatr Kartonka, miejsce: Gminne Centrum Kultury w Dubinach

**1 października (poniedziałek)**
10:00 i 12:00 „Ki, moj miły Ki" Teatr Kartonka, miejsce: Muzeum i Ośrodek Kultury Białoruskiej w Hajnówce

**2 października (wtorek)**
10:00 i 12:00 „Ki, moj miły Ki" Teatr Kartonka, miejsce: Teatr Dramatyczny im. A. Węgierki w Białymstoku

**3 października (środa)**
9:00 i 10:30 „Mara vusienia" Teatr Horada siabroŭ, miejsce: Dom Kultury Prawosławnej w Bielsku Podlaskim

**4 października (czwartek)**
9:00 i 9:30 „Kazki po-svojomu" Teatr Czrevo, czytanie performatywne + warsztaty + promocja książki, miejsce: Niepubliczna Szkoła im. św. św. Cyryla i Metodego w Białymstoku

12:00 i 13:30 „Nie chaču być PryncesAj!" Teatr Horada siabroŭ, miejsce: Teatr Dramatyczny im. A. Węgierki w Białymstoku

**5 października (piątek)**
10:00 i 12:00 „Nie chaču być PryncesAj!" Teatr Horada siabroŭ, miejsce: Muzeum i Ośrodek Kultury Białoruskiej w Hajnówce

13:00 i 18:00 „Sąsiedzi których nie ma. Opowieści mieszkańców Białowieży o swoich żydowskich sąsiadach" Grupa Teatralna „Wiejskaja dziatwa" działająca przy Teatrze w Teremiskach, miejsce: Bielski Dom Kultury

***Na wszystkie wydarzenia wstęp jest wolny.***

## Teatralny „Kierunek Wschód"

Teatr Dramatyczny im. Aleksandra Węgierki zaprasza na drugą edycję festiwalu „Kierunek Wschód". W tym roku wszystkie spektakle będzie można obejrzeć za darmo!

„Kierunek Wschód" to przegląd teatralny prezentujący kulturę pogranicza. Wydarzenie jest kolejnym projektem Teatru Dramatycznego, który ma służyć zacieśnianiu współpracy z partnerami z zagranicy oraz z innymi teatrami z Polski. Celem festiwalu jest upowszechnianie międzynarodowej idei Partnerstwa Wschodniego oraz prezentacja spektakli teatralnych partnerów z tych krajów, a także teatrów z Polski, które podobnie, jak białostocka instytucja, ulokowane są na pograniczach kulturowych i stąd czerpią inspirację do działań twórczych. Wydarzenie finansowane jest ze środków Ministra Kultury i Dziedzictwa Narodowego oraz Urzędu Marszałkowskiego Województwa Podlaskiego.

Tegoroczna edycja przeglądu odbędzie się w dniach od 22 do 30 września. Łącznie widzowie będą mogli obejrzeć aż siedem różnych przedstawień.

— Cieszę się, że Ministerstwo Kultury ponownie doceniło nasz pomysł i zdecydowało się na dofinansowanie festiwalu „Kierunek Wschód II". Chcąc wyjść naprzeciw potrzebom i oczekiwaniom naszych widzów, postanowiliśmy, że wstęp na tegoroczny festiwal będzie bezpłatny. Mamy nadzieję, że zachęci to do przyjścia na spektakle osoby, które na co dzień rzadziej interesują się teatrem. Tym bardziej, że zaprosiliśmy bardzo dobre teatry zarówno z Polski, jak i z zagranicy — mówi Piotr Adam Półtorak, Dyrektor Teatru Dramatycznego.

W trakcie festiwalu wystąpią artyści z Białorusi, Litwy, Ukrainy oraz z Bielska-Białej i Rzeszowa. 22 września o godz. 19.00 wydarzenie zainaugurują gospodarze, spektaklem „Opowieści o zwyczajnym szaleństwie" w reżyserii Grzegorza Chrapkiewicza. 23 września, także o godz. 19.00 na Scenie Kameralnej będzie można obejrzeć przedstawienie „Polowanie na szczury" Teatru Dramatycznego z Grodna. We wtorek, 25 września na Scenie Dużej Teatru aktorzy Teatru im. Wandy Siemaszkowej z Rzeszowa zagrają „Pogorzelisko". Dzień później (26 września, także o godz. 19.00) Republikański Teatr Białoruskiej Dramaturgii z Mińska na Białorusi zagra spektakl „Trzy Gąsle". 28 września (godz. 19.00) festiwalowa publiczność obejrzy na Dużej Scenie „Św. Idiotę" Teatru Polskiego w Bielsku-Białej. W sobotę, 29 września (godz. 19.00) będzie okazją do spotkania z aktorami ze Lwowa. Artyści z Narodowego Ukraińskiego Teatru Dramatycznego im. M. Zańkowieckiej zagrają „Rewizora" Nikolaja Gogola. Festiwal zakończy się 30 września monodramem „Koba/Stalin" w wykonaniu litewskiego aktora Aleksandra Rubinovasa. Spektakl na Scenie Kameralnej rozpocznie się o godz. 18.00.

# 23.09 — 29.09

**(22.03. — 20.04.)** 25-29.09. велізэзная энергія, жыццярадаснасць, сіла. Будзь гатовы ўвайсці ў новы раздзел жыцця. Добры час на сардэчныя заваёвы. 24-25.09. збярэцца шмат абавязкаў, не загубіся і не нарабі памылак. Многа энергіі аддасі на здабыванне грошай, не толькі каб зарабіць, але і паказаць, што можаш. Лепшая форма, імунітэт.

**(21.04. — 21.05.)** Не рызыкуй. Ахопіць цябе лянота. Аддай хоць крыху часу на грамадскую дзейнасць. Не будзь хатнім скнарай, дазволь штосьці купіць радні для радасці. Трымай здаровую дыету, займайся фізічнымі практыкаваннямі. Маладыя Бычкі будуць рухавымі, непаслухмянымі, могуць набіць сабе гузака. Кепскія эмоцыі выпацей у трэнажорнай зале.

**(22.05. — 22.06.)** Дома ўсё вернецца да нормы. Спакой, прыемна задзівяць цябе сябры. Калі шукаеш сваю палавінку, не расхвальвай сябе, бо вынік можа быць адваротны. Шукай прыхільнікаў, разам рэалізуйце амбітныя планы. 25-29.09. Сонца не паскупіць табе энергіі, канкурэнцыя павінна цябе баяцца. Могуць хутка расплавіцца фінансы, лепш не бяры пазык. Знайдзі час на адпачынак, правер, ці не маеш алергіі на нейкую ежу.

**(22.06. — 23.07.)** Новыя людзі, сінглам — новае каханне. Больш чым праца зойме цябе пляткарства і знаёмствы ў сеціве, але пільнуйся — цікуе кіраўнік, а твае працўнікі толькі чакаюць, калі падвернецца табе нага! 22-24.09. нішто цябе не абароніць перад прыкрымі паслядоўнасцямі тваіх памылак. 24-26.09. — час на размовы аб будучыні. 24-28.09. — добры час на капіталаўкладанні, куплю нерухомасцей ці страхоўкі. Могуць пабольваць табе суставы, калені. Ракам з першай дэкады могуць адтэрмінаваць аперацыю.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш баявіты і самаўпэўнены. Жыццё цікавае. 25-29.09. адвага для правядзення важных змен. Але 24-28.09. твае планы можа моцна заблакаваць квадратура Сонца з Сатурнам. Трымайся за кашалёк. Але можа аказацца, што калі ў ім застанецца адна залатоўка, раптам хтосьці ашчаслівіць цябе вялікай сумай грошай або многа выйграеш. Старайся з гадзіну ў дзень памедытаваць.

**(24.08. — 23.09.)** Цікавыя сустрэчы і прафесійныя праекты. Чакаюць цябе цікавыя падарожжы, якія пашыраць твае гарызонты і кола сяброў. Але 22-24.09. Сатурн у квадратуры да Меркурыя стане ўпоперак тваім планам і пакажа ў іх прабелы і хібы.

**(24.09. — 23.10.)** 24-26.09. лепшыя моманты ў пары, час можа прынесці вялікае захапленне, можа нават любоў. Пасля 22.09. спадзявайся добрых вестак, нават калі на нейкай справе паставіў ты ўжо крыжык. Дзяцей запішы на дадатковыя заняткі, любімыя. Не бойся цяжкіх размоў, абучэнняў ці прэзентацый. Штосьці добрае набудзеш з другой рукі. Справы давядзеш да шчаслівага фіналу. Але 24-28.09. можаш адчуць непрыемныя паслядоўнасці сваіх дзеянняў з больш адлеглага часу.

**(24.10. — 22.11.)** Рызыкнеш у каханні. На працы могуць выявіцца канфлікты і спрэчкі; шэф паверыць табе. Трымай язык за зубамі. Старайся не выдаваць усіх грошай, бо будзеш рабіць гэта з прыемнасцю! Пасля 23.09. звольніць твой метабалізм, будзеш санлівы; не папраўся. У Скарпіёнаў з другой дэкады праблемы са скурай. Часцей еж гародніну і садавіну. 23-29.09. можа давядзецца праглынуць табе горкую пілюлю.

**(23.11. — 22.12.)** 22-24.09. маеш шанцы на выдатныя вынікі ў працы ці ў школе. 25-29.09. можаш быць расчараваны сваёй другой палавінкай, але дай ёй другі шанц — пасля пасмеяцеся. 24-26.09. можаш апынуцца ў сітуацыі, якая будзе патрабаваць дыпламатыі; пакуль кагосьці пакрытыкуеш, пастаў сябе на яго месцы. Не раскідвайся грашыма.

**(23.12. — 20.01.)** Прыкмеціш найлепшыя нагоды. 24-26.09. адкрыюцца твае вочы на справы, якіх ты не хацеў бачыць, але будзь памяркоўным, без доказаў не ацэньвай. Калі шукаеш працу, з-за завялікіх патрабаванняў не страць занятку мараў. 24-28.09. снежаньскі Казярог хай не прастудзіцца; можа адпавіцца старая хвароба. 22-24.09. не дай сябе ўцягнуць у непатрэбны канфлікт.

**(21.01. — 19.02.)** Можаш здабыць пасаду мараў. А 22.09. ідзі на размовы, кваліфікацыі, вялікая сіла пераконвання, нават калі маеш невялікія кампетэнцыі. Самотныя Вадалеі да 25.09. могуць сустрэць кагосьці вабнага; не прыспешвай тэмпу ў знаёмстве. Сябры паправяць настрой. 25-29.09. знойдзеш у сабе сілы, каб пакінуць месца, дзе цябе не цэняць ці выкарыстоўваюць, ды не палі за сабой мастоў.

**(20.02. — 21.03.)** Твае здольнасці і таленты ўражваюць. Адкрываецца перад табой свет. У пачуццях канец з руцінай! Новыя кантакты. У прафесіі ўзнагароджанне. Неспадзяваныя грошы. Сядзь на дыету, ачышчайся, варушыся на прыродзе.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**1.** Радаслаў, беларускі палітык, старшыня Беларускай цэнтральнай рады (1887-1976), **2.** горад на поўначы Чылі, **3.** вострае праяўленне адзнак хваробы, дзе... рыс, **4.** чалавек, які вядзе сад, **5.** вайсковы службовы разрад, **6.** салодкая страва з тушонай морквы, **7.** шырокая папяровая абгортка для паштовых перасылак, **8.** экзамен, **9.** частка тулава ад шыі да крыжа.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 35 нумара**
Авёс, вясна, дыня, іней, По, поўх, сасна, тын, чай, шар, шчыт.
Рашэнне: **Той сапраўды няшчасны, хто няшчасны па сваёй віне**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:
Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Грушка — святое дрэва Камянецкай зямлі (4)

Раніцай, 27 жніўня 1960 года, на вуліцы раздаўся трывожны крык:

*— Девчата, нэма вжэ Грушкы!*

У Бушмічах выганялі кароў на пашу. Раней пайшлі чуткі, што ў дзень прыхадскога свята прыедуць разбіваць каплічку.

На вокліч адразу збегліся жанчыны. Яны кінулі ўсю работу і шчыльнай групай рушылі да Грушкі. Але за вёскай на мастку стаяла ўжо міліцыя і памежныя войскі. Ці бабскае шэсце правалася да месца? Архіўныя запіскі падаюць скупую інфармацыю, што здарэнню садзейнічаў супрацій вясковых жанчын. Верагодна, іх не пусцілі на месца, завярнулі. Усе гэтыя расказы пра скрыгат неба і плач святога дрэва быццам выняты з вуснай народнай творчасці. Ці не прыдумалі іх з мэтай справядлівай помсты?

Знішчэнне капліцы і дрэва ўлады падрыхтавалі заранёў. Яшчэ да сумна памятнай раніцы іконы былі перавезены ў царкву ў Вяраховічах.

Грушу абвязалі тоўстым шнурком і падчапілі да трактара. Тады, як прысягалі відавочцы, на небе з'явіўся крыж. Ва ўспамінах прабіваецца адна важкая дэталь: той трактар быў *краснага* колеру. Трактарыст, які пагадзіўся вырываць грушу, не папаў у спісак герояў. У народзе скажуць, што дасягнуў яго гнеў і праклёны безабаронных душ. Неўзабаве пасля здарэння мужчына загінуў пад коламі таго ж чырвонага трактара. Рахункі выраўняліся.

* * *

Расказы пра цуды і справядлівыя пакаранні — соль старажытнай Берасцейскай зямлі.

— Я то таго не бачыла, бо свечкі прадавала, — кажа Вера Мікалаеўна, — але такія гаворкі былі, былі...

Мова пра апошняе з'яўленне Божай Маці ў 2007 годзе. У Грушцы якраз адпраўлялі службу. Вобраз Багародзіцы ў блакітным адзенні паказаўся на небе, віднеў хвілінудзве і раптам знік. Цуд натхніў да пабудовы новай, мураванай царкоўкі, якую асвяцілі ў 2012 годзе.

Мая праваднiца адкрыла дзверы царкоўкі і пакінула мяне адну ўсярэдзіне. У першы момант атуліла гаючая, быццам дабытая з іншага часу, лагоднасць. Так падзейнічаў аскетычны інтэр'ер, распісаны ў моры блакіту, якім намаляваны сцены звонку і ўсярэдзіне. Таксама алтар і прастолы былі накрыты шаўковай блакітнай тканінай. Блакіт ахінаў выявы апосталаў у мініяцюрным іканастасе, лунаў з харугваў. Нават святло, якое шчодрымі жменямі ўлівалася праз мініяцюрныя вокны, здавалася блакітным.

— Пастаўце сваёй рукой свечку, — падказала спадарыня Вера, — як будзе правіцца ў бліжэйшую суботу, тады людзі запаляць...

Царкоўку ў гонар Яўлення Божай Маці ўвесь час папаўняюць іконамі. Сама старасціха шмат разоў ездзіла за пакупкамі ў Луцк і Роўна на Украіне. Там танней. Некаторыя зроблены пад заказ, напрыклад, ікона на галоўным прастоле. На ёй распісанае ў візантыйскім стылі з'яўленне Божай Маці пад дрэвам.

— Апошнім часам пачалі тут вянчацца, — дадае з гонарам жанчына.

Праз некалькі дзён пасля нашай размовы Грушку наведае сам уладыка Іаан, епіскап брэсцкі і кобрынскі ды ў саслужэнні 11 святароў і архірэйскага хору здзейсніць святую літургію.

* * *

А вось і сама Грушка! Апранутая ў разнаколерныя ленты і ручнікі, здалёк напамінала жыццярадасную жанчыну. Вера Мікалаеўна пакланілася месцу.






— Мне тут так добра, хораша, — уздыхнула яна, — пра ўсе клопаты і хваробы забываю. І ведаеце, як служба, тут дождж не падае. Хмары як занавескі рассоўваюцца. Навокал вятрыска, лівень — а тут *пагода*. Як я тут, за ўсе гады адзін раз пакрапіла. Такая тут благадаць.

Грушка — царква пад адкрытым небам. Да яе можна прыйсці ў любую пару дня і любую параніу года. Калі спытаць у вяскоўцаў пра вытокі культу, яны абавязкова расцягнуць іх ажно за межы сівых легенд:

*— Тут моя матэр ходыла, і баба ходыла і шчэ бабы баба ходыла...*

Сёння паломнікі дабіраюцца на машынах ды не толькі з прыпушчанскіх вёсак. У час маёй другой пабыўкі пры дарозе затармазіла шыкоўная машына. З сярэдзіны выскачылі дзве стройныя элеганткі. Адна з іх вяла за ручку двухгадовую дзяўчынку. Жанчыны расцалавалі іконы пад дрэвам і рушылі завязаць стужку на галінцы. Але яшчэ да гэтага маці прыказала дачушцы:

*— Машенька! Что надо сказать Грушке?*

*— Надо поблагодарить Грушку*, — зашчабятала дзяўчатка. — *За то, что мама здорова.*

*— Да, мама тяжело болела*, — дадала жанчына. — *Спасибо тебе Грушка за помочь.*

Далей па чарзе ўсе пацалавалі ў ствол дрэва і навязалі на галінку аранжавую стужку. У зваротнай дарозе паломніцы завіталі яшчэ да гідранта пад блакітным падстрэшкам, каб напіцца святой вады. Ды з'ехалі па гладкай як шклянка шашы. Усё трывала адзін міг. Але на іх месца пад'ехалі ўжо чарговыя гарадскія наведвальнікі. У гэты раз прыехалі маці з дарослай дачкой. Бацька, верагодна скептык бабскіх павер'яў, застаўся чакаць у машыне. Жанчыны адразу пайшлі расцалаваць іконы.

Пад Грушкай стаіць жалезная скрынка на ахвяраванні. Але паломнікі не надта ахвотна кідаюць туды грошы.

— Ужо некалькі разоў нас абакралі, — скажа мне старасціха. — Мясцовыя пацаны замок зламалі. Ды людзі апасаюцца кідаць у скрынку грошы. А калі служба, тады ўспамагаюць, ведаюць, што іх ахвяраванні трапяць у добрыя рукі.

Маці з дачкой таксама не прыехалі з пустымі рукамі. Яны паставілі пад іконамі густоўны букет з кветачнага магазіна. Іх скораныя постаці ў хустачках выяўлялі маўклівую падзяку і нешта адвечнае. Да Грушкі, калі прыслухацца расказам прыпушчанскіх сялянак, выпраўлялі іх матулі, добрыя свёкры і вопытныя суседкі.

* * *

— Мая свякроў Галена з Арэшкава была. Яна хоць і калека, шкадавала мяне, — успамінае 89-гадовая Люба з Занавінаў. — Яна даглядала дзяцей, а я ў калгасе рабіла. Капала торф, грузіла. З усёй работай спраўлялася. Калгас, дзеткі, — заклінаецца старажылка, — каб вы яго з роду не бачылі! Усё ў нас забралі:

*— Осталіся голы як сокул!*

Ад голаду, стомы і страху цяжка хварэлі. Баба Люба за сваё доўгае жыццё 32 разы ляжала ў бальніцы. Але найгорш, калі дзеці хварэлі.

— То я ўсё пад Грушку хадзіла, — успамінае старажылка, — і крэсцікі насіла.

У палове пяцідзясятых у Любы расхварэлася дачушка. На целе з'явіліся нарывы. Што не рабілі, раны не гаслі. Тады свякроў параіла ісці пад Грушку. Ад Занавінаў да Бушміч сем-восем кіламетраў.

*— Посаджу дочку на руках і крэсцік, і пішо одсюля іду.*

Ужо пасля першага разу цела дзіцяці аздаравела, загаіліся раны. Ад той пары Люба вазіла абарочныя крыжы з надпісам «ЗА ЗДРАВІЕ».

Праўда, муж спадарыні Любы, калі ў яго з'явіліся скулы на нагах, лячыўся ў іншым месцы. Дактары лячылі, пералівалі кроў — нішто не дапамагала. Ён не схацеў ісці пад Грушку.

— Дык я яму кажу, — прыгадвае старую гісторыю баба Люба, — ідзі на рэчку.

У Занавінах „на рэчку" хадзілі ў Чысты чацвер перад Вялікаднем. Трэба было ўстаць перад усходам сонца і моўчкі сходзіць да крыніцы або ракі.

— То мой *хазяін* сходзіў раненька да рэчкі, прамыў раны і паздаравеў. А так дахтары, без пары ў магілу яго загналі б!

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны **КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 38